Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4617) 3 чэрвеня 2011 г.



**Спяшайцеся выпісаць ЛіМ на ІІ паўгоддзе!**
*Для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 11 660 руб.**
Падпісны індэкс — 63856
*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 18 520 руб.**
Падпісны індэкс — 638562
Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:
**1 месяц — 7 150 руб.**
Падпісны індэкс — 63815
*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 13 920 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

# Знакі духоўнай велічы

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

**У гэтага старажытнага беларускага горада ёсць усё: уласныя гонар і годнасць, самабытная прыгажосць; радавод, багаты на гістарычныя падзеі; рамантычныя мясцовыя легенды і ўнікальныя помнікі. Тут жыве неабыякавы, цягавіты і творчы люд, які трымаецца родных каранёў, шануе слаўную даўніну, захоўвае высокую культуру продкаў — у чалавечых стасунках, у стаўленні да сваёй зямлі, у працы. І тое, што называюць Нясвіж нашай некаранаванай сталіцай, — зусім не метафара, гэта — факт гісторыі. А якая ж сталіца без фестывальных традыцый!**



Невыпадкова менавіта тут, у знакавым для ўсёй беларускай зямлі старажытным кутку Міншчыны, убачыў свет першы культурна-асветніцкі праект Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі — пачатак мэтанакіраванага фестывальнага руху, які па ініцыятыве мастацкага кіраўніка калектыву, маэстра Міхаіла Фінберга, ахапіў ужо шэраг невялікіх гарадоў і мястэчак у розных абласцях краіны.

Свята мастацтваў "Музы Нясвіжа", падтрыманае Міністэрствам культуры Беларусі, Мінскім аблвыканкамам ды Нясвіжскім райвыканкамам, прайшло сёлета ўжо шаснаццаты раз. Адпаведна традыцыі, першай на фестывальным абсягу з'явілася Мельпамена. Муза тэатра завітала сюды разам з Таліяй, апякункай самага вясёлага сцэнічнага жанру, бо ў Нясвіжскім цэнтры культуры і адпачынку ладзіўся паказ "Камедыі" паводле твораў Францішка Аляхновіча ды Каятана Марашэўскага. Гэты папулярны спектакль прывезлі на фестываль артысты з Маладзечна і прадставілі як візітоўку свайго калектыву — Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

Назаўтра, змяніўшы Талію і Мельпамену, у Нясвіжы панавалі строгая Кліа і эмацыянальная Эўтэрпа, ды і сам Апалон, мабыць, зазірнуў сюды — у святочную і творчую атмасферу, дзе лунаюць узнёслыя інструментальныя мелодыі ды праніклёны харавы спеў, дзе ёсць прастора для гістарычнага абагульнення, для палёту навуковай думкі і для сентыментальных жывапісных фантазій. Так, "Музы Нясвіжа" — гэта не проста чарада канцэртаў і выставак. Праграма кожнага фэсту па сутнасці ўяўляе сабой новы мастацка-асветніцкі праект, які абапіраецца на пэўную навуковую канцэпцыю. Вось і сёлета ў Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэцы ладзілася пад кіраўніцтвам доктара мастацтвазнаўства, прафесара Вольгі Дадзіёмавай навукова-практычная канферэнцыя, падтрыманая выданнем зборніка дакладаў. Вядучых айчынных музыколагаў, гісторыкаў, якія даследуюць творчасць кампазітараў Беларусі, нашу культурную спадчыну, паяднала актуальная тэма: "Беларуская музыка ў каардынатах еўрапейскага мастацтва".



Уяўленне пра тое, наколькі арганічна ўваходзіла і ўваходзіць наша старажытная і не такая ўжо даўняя музыка ў культурны кантэкст Еўропы, давалі канцэртныя праграмы, якія суправаджаліся папулярным асветніцкім каментарыем навуковага кіраўніка фестывалю Вольгі Дадзіёмавай. Камерныя калектывы, якія працуюць у складзе Нацыянальнага канцэртнага, прадставілі лепшыя старонкі нашай класічнай музычнай спадчыны ў эксклюзіўных аранжыроўках, зробленых таленавітымі спецыялістамі аркестра. Напрыклад, заслужаны артыст Беларусі Генадзь Забара, саліст-віртуоз, заснавальнік, мастацкі кіраўнік і ўдзельнік Ансамбля кларнетыстаў, робіць усе пералажэнні нотных партытур для сваёй суполкі. Тое ж можна сказаць і пра хормайстра Наталлю Міхайлаву, кіраўніка вакальнага ансамбля. Сапраўдныя інструментальныя палотны для ансамбляў драўляных духавых стварае Генадзь Гедыльтар, а партытуры для Камернага аркестра нясуць на сабе знак высокага прафесіяналізму і тонкага густу высакакласных аранжыроўшчыкаў Андрэя Шпянёва ды Уладзіміра Ткачэнкі.

***На здымках: так сёння выглядае замак Радзівілаў; саліруе Алена Навуменка.***

**(Заканчэнне на стар. 18)**

## Пункцірам

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Наталлю Рудневу і народную артыстку Расійскай Федэрацыі Раксану Бабаян з юбілеямі, пажадаў ім творчых поспехаў.

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб стварэнні ў Беларусі спецыяльнага турыстычна-рэкрэацыйнага парку "Аўгустоўскі канал". У адпаведнасці з указам на памежных участках Аўгустоўскага канала і ракі Нёман тэрмінам на 20 гадоў усталёўваецца асаблівы прававы рэжым, які будзе садзейнічаць далейшаму ўдасканаленню інфраструктуры канала, прыцягненню іншаземных інвестыцый, павелічэнню турыстычнага патэнцыялу.

Міжнародны фестываль народнай творчасці "Вянок дружбы" пройдзе ў Бабруйску з 30 чэрвеня па 3 ліпеня. У музычным свяце прымуць удзел калектывы мастацкай самадзейнасці больш як з дзесяці краін. У фармаце музычнага форуму пройдуць канцэрты на адкрытых і закрытых пляцоўках, фотавыстаўка ў Бабруйскім краязнаўчым музеі, выстаўка нацыянальных сувеніраў, свята моды і прыгажосці, дзіцячае свята "Дзяцінства — гэта я і ты".

Пабачыла свет унікальнае выданне "Турыстычная мазаіка Беларусі". Кніга з'яўляецца вынікам інавацыйнага праекта, выкананага ў 2006—2008 гадах па заказе Міністэрства спорту і турызму Беларусі спецыялістамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. У выданні прадстаўлена канцэпцыя развіцця нацыянальнага турызму на аснове 52 лакальных раёнаў комплекснай гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, апісаны абрады і рамёствы ў розных рэгіёнах краіны, расказана пра выдатныя мясціны, якія варта наведаць.

Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" выпусціла паўнаметражны хранікальна-дакументальны фільм "Паходня вайны", які апавядае пра князя Вітаўта, што правіў Вялікім Княствам Літоўскім на працягу сарака гадоў. Аўтары стужкі, Уладзімір Мароз і Міхаіл Жданоўскі даказваюць, што пры Вітаўце ВКЛ стала самай магутнай дзяржавай у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Дні культуры Венесуэлы прайшлі ў Оршы. На свяце прысутнічаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Венесуэлы ў Беларусі Амерыка Дыяс Нуньес і першы сакратар пасольства Херарда Эстрада Марцінэс. Была адкрыта выстаўка партрэтаў выдатных дзеячаў вызваленчага руху ў Венесуэле, выступалі венесуэльскі музычны калектыў "Алі Прымера" і група фальклорнага танца "Галанда Марэна". Дэманстраваліся мастацкія фільмы на іспанскай мове.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

**Людміла КЕБІЧ**

# Вясновы ўраджай

**Пісьменнікі Гродзенскага абласнога аддзялення рэалізуюць новыя творчыя ініцыятывы, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Апошнім часам выдадзена дзесяць кніг, праведзена шмат выступленняў сярод насельніцтва, адбыліся прэзентацыі новых твораў і творчыя вечарыны васьмі членаў саюза. Паралельна з гэтымі кірункамі запачаткаваны і новыя справы.**

Заўважна мяняюцца пісьменніцкія арыенціры ў літаратуры, разуменне значнасці сваёй асобы і яе месца. Пра гэта сведчаць, у першую чаргу, кнігі, якія з'явіліся ў апошні час і ў якіх не ўяўна праступаюць прыкметы рэгіянальнасці. Відома, паэты заўсёды шмат вершаў прысвячалі сваёй малой радзіме, апісваючы яе прыроду, апавядаючы пра з'явы, прысвячаючы мясцовым знакамітасцям мінулага і сучаснасці свае ўзнёслыя радкі. У гродзенскай сучаснай прозе такога амаль не было. Проза літаратурная, як і проза жыццёвая, былі агульначалавечымі, аўтары аповесцей і раманаў шукалі тэмы і герояў для сваіх твораў далёка за межамі Прынёмання. Сёння амаль кожны ўпэўнены, што стварэнне менавіта рэгіянальнай літаратуры з усімі яе асаблівасцямі, традыцыямі, адметнасцямі — гэта і ёсць найгалоўнейшая задача пісьменніка-правінцыяла ў самым добрым значэнні гэтага слова.

Пётр Сямінскі выдаў раман "Шчасце заўжды наперадзе", у якім вельмі моцна выступаюць рысы рэгіянальнасці. Па-першае, дзеянне твора адбываецца ў Гродне, або ў старым маёнтку былога графа з распаўсюджаным на Гродзеншчыне прозвішчам Эйсмант. Па-другое, апісана шмат мясцін, вуліц, дамоў, кавярняў, па якіх чытач пазнае менавіта свае прынёманскія мясціны, свой абласны цэнтр. Мова, на якой размаўляюць героі рамана, — не звыклая, паўсядзённая, а крыху напышлівая, пакручастая — мова, на якой некалі размаўлялі ў паўсядзённым жыцці. І гэта выклікае настальгію па былой прыгажосці адносін паміж людзьмі праз слова, успрымаецца як мара аўтара.

У гродзенскіх пісьменнікаў склаліся цесныя творчыя стасункі з многімі установамі і прадпрыемствамі вобласці, таму шмат якія мерапрыемствы сталі традыцыйнымі. Так, напрыклад, ізноў у маі мы наведалі Гродзенскі доміінтэрнат для інвалідаў. Многія яго насельнікі знаёмыя нам здаўна. Прыемна, што ўсе яны вельмі рады сустрэчам з пісьменнікамі. Заўсёды чакаюць іх з маленькімі сюрпрызамі. На гэты раз падлеткі-інваліды вывучылі на памяць і прачыталі паэтам вершы на беларускай мове. Нядаўна прыняты ў Саюз пісьменнікаў, сам інвалід па зроку, Віталь Радзівонаў прэзентаваў у інтэрнаце сваю новую кнігу афарызмаў пра каханне і шчасце "Вялікая — пяшчотная".

Традыцыйнымі сталі стасункі з Гродзенскім домаммузеем Максіма Багдановіча, з дня адкрыцця якога 16 мая споўнілася 25 гадоў. Пісьменнікі Гродна падаравалі музею бібліятэчку сваіх новых кніг.

І яшчэ адна радасная навіна. Гродзенскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб правядзенні абласнога літаратурнага конкурсу імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч). З адпаведнай просьбай звярнуліся да яго пісьменнікі Гродзеншчыны. Гэта будзе конкурс рукапісаў, пераможцы якога змогуць выдаць за належную прэмію кнігі.

## Імпрэзы

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Кастуся Дробава**

**Адзначаны геніяльнасцю так ярка, нібыта яшчэ ў калысцы быў пацалаваны Богам, прыгожы, як славянскі дух вясны Лель, паэт Максім Багдановіч пайшоў у нябыт, пражыўшы да крыўднага мала — усяго 25 гадоў. Але нават дзень яго сыходу быў светлым, веснавым — 25 мая. У Мінску ўжо стала добрай традыцыяй штогод у маі адзначаць Дзень памяці класіка беларускай літаратуры.**



# Кветкі для Багдановіча

Дзень памяці адкрыла літаратурна-музычная імпрэза, старанна падрыхтаваная супрацоўнікамі Літаратурнага музея М. Багдановіча, падчас якой удзельнікі ўскладалі кветкі да помніка Максіму. Прыйшлі з букецікамі мінскія школьнікі, спыніліся ля бронзавага Багдановіча стройныя шэрагі сувораўцаў, запоўніла прастору ля пастамента творчая інтэлігенцыя. Першым усклаў ружы міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка. Міністр прачытаў на памяць "Зорку Венеру".

— Я невыпадкова абраў гэты верш, — патлумачыў ён. — Калісьці, у дзясятым класе, праспяваўшы раманс "Зорка Венера", я атрымаў "пяцёрку" ад школьнага настаўніка. Верш гэты я чытаў сваёй каханай, калі з ёю пазнаёміўся. А пазней — калі мы з ёю развіталіся. Ён прайшоў праз усё маё жыццё.

Павел Латушка паведаміў прысутным, якія акцыі і мерапрыемствы плануе Міністэрства культуры да юбілею Багдановіча, што маецца быць адзначаны ў снежні гэтага года, дадаўшы, між іншым: "Але важна нам узгадваць паэта не толькі з нагоды юбілею, а і заўжды. Ён варты, каб мы яго шанавалі".

Лірычную нотку, узятую міністрам, падмацаваў чытаннем славутай "Пагоні" намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па культуры і мастацтве пры Савеце Міністраў Беларусі, пісьменнік Анатоль Бутэвіч. Сваёй прамовай ён заклікаў усіх вучыцца любові да радзімы ў Багдановіча. "Жывучы ў Расіі, ён не чуў беларускага гоману, быў пазбаўлены беларускага асяроддзя. Але ў яго была натуральная прага да беларускай мовы. Ён ведаў: яна не можа быць кепскай, яна не можа быць нябожай, бо яна — матчына".

Уласны верш, прысвечаны Максіму Багдановічу, натхнёна чытаў старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. "Пра што думаецца ля гэтага помніка? — пытаўся дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" паэт Навум Гальпяровіч у прысутных і сам жа адказваў на гэтае пытанне. — Думаецца пра Беларусь і пра тое, што ў існаванні радыёстанцыі, якая на сямі мовах расказвае пра нашу краіну, ёсць і яго заслуга. Багдановіч даў нам галоўнае — гонар за радзіму". "Каб не было такіх, як Багдановіч, магчыма, не было б і Беларусі", — прадоўжыў гэтыя развагі мастак Эдуард Агуновіч. Нямала добрых цёплых слоў у адрас паэта было сказана іншымі выступоўцамі, сярод якіх былі старшыня фонду культуры Уладзімір Гілеп, паэты Міхась Башлакоў і Васіль Жуковіч ды іншыя выступоўцы.

Пасля імпрэзы ля помніка ў Саборы святых Пятра і Паўла адбылася памінальная служба па паэце і, урэшце, вечарына "Вандроўка ў краіну светлага суму" — сумесны праект музея Багдановіча і калектыву Беларускай дзяржаўнай філармоніі — трыа "Вытокі".

***На здымку: выступаюць Алеся Сівохіна і Наталля Кухарава.***


**Шаноўныя чытачы! Газету «Літаратура і мастацтва» можна набыць у наступных кіёсках і крамах:**

кіёск № 1 (пр. Незалежнасці, 38),
кіёск № 13 (вул. Леніна, 18),
кіёск № 20 (вул. Багдановіча, станцыя метро "Няміга"),
кіёск № 52 (вул. Старажоўская, 8),
кіёск № 99 (Прывакзальная плошча, прыгарадныя касы),
кіёск № 110 (вул. Пуліхава, 3),
кіёск № 114 (вул. Кальварыйская, 3),
кіёск № 131 (вул.Сурганава, 17),
кіёск № 150 (пр. Незалежнасці, 48),
кіёск № 166 (пр. Незалежнасці, прыпынак транспарту "Станцыя метро "Усход"),
кіёск № 198 (пр. Партызанскі, 26),
кіёск № 229 (пас. Сокал),
кіёск № 263 (першы паверх чыгуначнага вакзала),
кіёск № 297 (вул. Маякоўскага, 16),
кіёск № 317 (падземны пераход чыгуначнага вакзала),
кіёск № 323 (падземны пераход чыгуначнага вакзала),
кіёск № 342 (станцыя метро "Спартыўная"),
кіёск № 345 (пр. Пераможцаў, 45),
кіёск № 353 (гандлёвы цэнтр "Сталіца"),
крама № 2 (пр. Незалежнасці, 44),
крама № 3 (пр. Незалежнасці, 74),
крама № 4 (вул. Леніна, 2),
крама № 7 (вул. Я. Коласа, 67),
крама № 14 (вул. К. Маркса, 6),
крама № 15 (вул. М. Танка, 16),
крама № 16 (вул. В. Харужай, 24/2),
крама № 18 (пл. Перамогі, падземны пераход),
крама № 19 (пр. Пераможцаў, 51/1),
крама № 21 (станцыя метро "Пушкінская"),
крама № 27 (вул. Валадарскага, 16).

*Але ўсім, хто хоча абавязкова патрымаць у руках свежы нумар газеты і не "паляваць" за ім па крамах, мы раім падпісацца на газету "Літаратура і мастацтва".*


**Увага!**

**14 чэрвеня** з 10 да 11 гадзін адбудзецца "прамая лінія" з дырэктарам ААТ "Белкніга" Аляксандрам Аляксандравічам ВАШКЕВІЧАМ. На пытанні ён адкажа па тэлефоне 284-66-73. Папярэдне задавайце пытанні па тэлефоне 284-66-71 альбо пішыце на электронны адрас газеты: ***lim_new@mail.ru***

Літабсягі

# Вожыкаўцы ў Дзяржынску

Вольга КАЧАНОВІЧ

**У гімназіі № 1 г. Дзяржынска прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 115-й гадавіне класіка беларускай літаратуры Кандрата Крапівы. Імя гэтае не чужое дзяржынскім гімназістам, бо ў 1912—1913 гадах будучы патрыярх сатыры і гумару навучаўся ў койданаўскім гарадскім вучылішчы, пераемніцай якога і з'яўляецца гімназія № 1 — школа з багатай стогадовай гісторыяй.**



Святкавалі юбілей разам з рэдакцыяй часопіса "Вожык". У госці да школьнікаў прыехалі галоўны рэдактар Юлія Зарэцкая, паэт Павел Саковіч і мастак Аляксандр Каршакевіч.

Пралог свята — "У Койданава — за кнігай, або Адна старонка з біяграфіі Кандрата Крапівы" — пазнаёміў прысутных з тым, як жылося Кандрату Атраховічу ў Койданаве, як ён вучыўся, чым захапляўся, хто з настаўнікаў аказаў уплыў на яго станаўленне як літаратурнага дзеяча, на яго выбар жыццёвага шляху.

Адукацыя, атрыманая ў койданаўскім гарадскім вучылішчы, дазволіла юнаку паспяхова здаць экстэрнам экзамены на званне народнага настаўніка.

На свяце гімназісты чыталі творы знакамітага выпускніка дзяржынскай школы. Яго памяці прысвяцілі аўтарскую песню "Белы бусел" сёстры Ганна і Марыя Клімовіч.

Галоўны рэдактар "Вожыка" Юлія Зарэцкая распавяла пра гісторыю выдання, для якога гэты год — таксама юбілейны: "Вожыку" споўнілася 70 гадоў. Першым яго рэдактарам быў Кандрат Крапіва. Матэрыялы пра пісьменніка да яго юбілею змешчаны ў апошнім нумары альманаха "Вожык", які супрацоўнікі рэдакцыі падаравалі гімназічнай бібліятэцы разам з іншымі выданнямі — кнігамі Паўла Саковіча, паэмай "Тарас на Парнасе", выдадзенай на трох мовах: беларускай, рускай і ўкраінскай.

З цікавасцю слухалі вучні шчырыя лірычныя радкі Паўла Саковіча, яго гумарэскі, вершы для дзяцей і літаратурныя пародыі. Паэт — таксама юбіляр: ён нарадзіўся літаральна на месяц раней, чым сам часопіс.

Мастак Аляксандр Каршакевіч правёў майстар-клас для дзяцей, якія маюць здольнасці да малявання.

Напрыканцы сустрэчы нарадзіўся калектыўна складзены экспромт — акраверш, у якім ад імя Кандрата Крапівы апавядаецца пра койданаўскі перыяд з яго жыцця.

***На здымку: перад гімназістамі выступае галоўны рэдактар альманаха "Вожык" Юлія Зарэцкая, а ў мастацкага рэдактара Аляксандра Каршакевіча нараджаецца сяброўскі шарж.***

Артлінія

# Любоў і лёс

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара

**У Наталлі Рудневай — сапраўднага майстра музычна-сцэнічнага мастацтва, салісткі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі — юбілей. Першымі павіншавалі яе з прыгожай датай супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі ды наведвальнікі выстаўкі "Жыццё — тэатр", адкрытай тут да 60-годдзя спявачкі.**

Экспазіцыя ўключае афішы і праграмкі спектакляў, сцэнічныя касцюмы і асабістыя рэчы артысткі, узнагароды, фотаздымкі з калекцыі музея і з асабістага архіва Н. Рудневай, якія складаюцца ў дакументальна-вобразны аповед пра творчы шлях беларускай опернай зоркі. Сама ж яна ў дзень адкрыцця выстаўкі была гераіняй юбілейнай імпрэзы, напоўненай віншаваннямі, успамінамі, размовамі пра мастацтва.

Скончыўшы музычнае вучылішча ў родным горадзе Куйбышаве, яна па размеркаванні прыехала працаваць у Мінск. Любоў да спеваў прывяла Н. Рудневу, маладую артыстку хору Вялікага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР, у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю (клас К. Драздовай). І ў 1981-м яе чарадзейнае мецца-сапрана ўзбагаціла палітру галасоў нашых оперных салістаў. За тры дзесяцігоддзі служэння музыцы і сцэне Н. Руднева раскрылася як разнапланавая спявачка і актрыса. Амнерыс, Эбалі, Ульрыка, Сантуцца, Разіна... Такія ролі падуладныя толькі майстрам! Яна пераўвасаблялася ў вобразы фатальнай Маддалены з аднайменнай оперы С. Пракоф'ева, апантанай каханнем і вольналюбівай Кармэн (партыя галоўнай гераіні папулярнай оперы Ж. Бізэ ў рэпертуары мецца-сапрана — шчаслівая рэдкасць!), тэмпераментнай Канчакоўны з "Князя Ігара" А. Барадзіна, наравістай і помслівай Любкі з "Сівой легенды" Д. Смольскага, салодкагалосага Леля са "Снягурачкі" М. Рымскага-Корсакава. Помніцца, як у Клубе сяброў оперы, на сцэне колішняга сталічнага Дома мастацтваў, артыстка самааддана ўваходзіла ў ролю італьянкі Джуліі — гераіні "Альпійскай балады", камернай оперы В. Губарэнкі паводле аповесці Васіля Быкава...

Падчас сустрэчы з Н. Рудневай у музеі адбыўся канцэрт яе вучняў — студэнтак Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Некалькі твораў выканала Наталля Аляксандраўна. Быў і сюрпрыз ад вучняў: аб'яднаўшыся ў вакальны секстэт, яны праспявалі "Хабанеру" Кармэн з арыгінальным тэкстам, прысвечаным шчасліваму творчаму лёсу свайго педагога.

Бенефіс артысткі адбудзецца ў НАВТ оперы і балета Беларусі 7 чэрвеня.



***На здымку: народная артыстка Беларусі Наталля Руднева.***

Повязі

# Сэрца, якое належыць Беларусі

**У публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска адбылася прэзентацыя новай кнігі Іны Санінай "... і аблокаў свячэнне". Кандыдат архітэктуры, член міжнароднага ПЭН-клуба і рускіх літаратурных клубаў Лос-Анджэлеса і Нью-Ёрка і, чым асабліва ганарыцца, — член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Іна Саніна (Маіна Арцішэўская-Ерусалімчык) нарадзілася ў Беларусі ў 1933 годзе. Яе дзяцінства прайшло ў пасёлку Высокае Віцебскай вобласці, дзе маці працавала фельчарам. Пасля вайны адразу пайшла ў трэці клас, выдатна скончыла вясковую сямігодку і паспяхова паступіла ў сталічны архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Шчодра адораная талентамі дзяўчынка малявала, спявала і марыла пра мастацтва. Уладальніца лірычнага сапрана, у 26 гадоў магла трапіць у кансерваторыю, але паміж перспектывай у 30 гадоў пачынаць кар'еру опернай спявачкі з галасам, які "рана вяне", і сямейным жыццём выбрала апошняе.

У 1979-м яна трапляе ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Працуе рабочым-чарцёжнікам — дапамагае чыёйсьці фантазіі стаць падрабязна распрацаванай канструкцыяй будынка. І спрабуе сябе ў новай якасці — у 1984 годзе выходзіць у свет яе першая кніжка "Кветкі часу". У 2007 годзе грамадзянка ЗША, на рахунку якой ужо зборнікі "Сэнс" (Мінск, 1995), "Крыніцы" (2002, Лос-Анджэлес), "Лістапад" (2006, Лос-Анджэлес), уступае ў СПБ.

У прадмове да пятай кнігі пра аўтарскую пазнавальнасць яна разважае: "Паэт, колькі б ён ні напісаў за сваё жыццё вершаў, піша адну вялікую паэму; кампазітар — бясконцую сімфонію; мастак — адлюстроўвае свет згодна з уласным бачаннем гэтага свету. Таму многіх аўтараў лёгка пазнаць па асобных фрагментах..." Гэта справядліва і ў дачыненні да яе творчасці: яе вершы, ілюстраваныя ўласнымі малюнкамі — краявіды Беларусі, дзе прайшло дзяцінства, і разважанні мудрага чалавека, які ўмее цаніць простыя радасці жыцця — святло сонца з-за аблокаў, цішыню, цеплыню сямейных і сяброўскіх адносін...

На сустрэчу ў Мінск Іна Саніна прывезла і зборнік "Залатая кніга", дзе сярод твораў пераможцаў Міжнароднага паэтычнага турніру ў Дзюсельдорфе, які праходзіў з 2001 па 2010 гады, ёсць і яе вершы. Літаратурны плён паэтэсы адзначаны Граматай Саюза пісьменнікаў Беларусі, уручанай старшынёй Мінскага аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым. На прэзентацыі выступілі паэт Анатоль Аўруцін, доктар архітэктуры Ірына Іода, сябры і прыхільнікі творчасці Іны Санінай.



З-пад пяра

Літаратурна-музычнае аб'яднанне "Акорд" з'явілася ў снежні 2008 года. Назва яго з французскай мовы перакладаецца як "згода". На пасяджэннях, што адбываюцца раз на месяц у дзіцячай бібліятэцы № 2, акордаўцы чытаюць і слухаюць вершы. Тут выступаюць барды В. Віткін, А. Іўліеў, Н. Мальгіна, літаратары — члены Саюза пісьменнікаў Юрась Нераток, Лізавета Палеес, Соф'я Макарэвіч, паэты-песеннікі Мікалай Палякоў, Зміцер Ермаловіч-Дашчынскі. На пасяджэннях з'яўляюцца і такія госці, як кампазітар Рыгор Сурус, пісьменнікі Анатоль Аўруцін і Сяргей Трахімёнак.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Больш як 30 тыбецкіх ікон (танка) было прадстаўлена на выстаўцы "Прастора, напоўненая сэнсам" у Гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў. Танка прывезлі з Бранска, дзе яны захоўваюцца ў фондах мясцовага краязнаўчага музея. Дапоўнілі экспазіцыю цікавай выстаўкі рэчы, якія расказваюць пра традыцыі будыйскай культуры — іх прадставіў прыватны калекцыянер, гомельскі фотажурналіст і вандроўнік Юрый Бірукоў. Тыбецкія іконы, на якіх намаляваны персанажы будысцкага пантэона, напоўнены сімволікай, філасофіяй высокай духоўнасці, развагамі пра сэнс жыцця чалавека.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

"Па галоўнай вуліцы з аркестрам" прайшлі ўдзельнікі XX абласнога свята-конкурсу духавой музыкі "Фанфара-2011" у Лунінцы. Мерапрыемства пачалося маршам-парадам духавых аркестраў. На стадыёне "Палессе" адбылося ўрачыстае адкрыццё свята. Затым у гарадскім Доме культуры прайшоў конкурс дзіцячых духавых аркестраў. Плошча Леніна вечарам чакала жадаючых на канцэрт Брэсцкага гарадскога аркестра духавой і эстраднай музыкі, пасля якога адбылася вечарына "Святочны вернісаж" з удзелам майстроў ігры на духавых інструментах. Музыка гучала і ў Палацы культуры прадпрыемства "Граніт", Дварэцкім, Дзятлавіцкім, Палескім сельскіх дамах культуры. Другі дзень быў адзначаны конкурсам духавых аркестраў і дзіцячым святам "Музычны зігзаг".

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

У Беларусі праходзяць мерапрыемствы ў межах Дзён культуры Швецыі. Распачаліся яны канцэртам фолк-музычнага гурта "Hedningarna" і адкрыццём выстаўкі карыкатуры "Сам-насам з кліматам". Мінскую публіку зацікавіў беларуска-шведскі праект "Чара". Рок-музыкант Зміцер Вайцюшкевіч, якога шведскі пасол Стэфан Эрыксан, у прыватнасці, назваў "смелым чалавекам і ў жыцці, і ў творчасці", прапанаваў музыку, напісаную ім да вершаў шведскіх паэтаў Катарыны Фростэнсан, Крыстофера Леандуэна, Кенэта Клемэтса і Барбру Ліндгрэн, перакладзеных на беларускую мову. Аматары літаратуры атрымалі магчымасць не толькі пазнаёміцца з творчасцю шведскіх аўтараў, але і ўжывую сустрэцца з імі. На філфаку БДУ перад студэнтамі і выкладчыкамі выступалі Катарына Фростэнсан, Улу Лашму і Ульф Старк. Былі яшчэ сустрэчы ў Пінску і Брэсце.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніны Іванаўны РАДЗІВОНЧЫК і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі смуткуе ў сувязі са смерцю паэтэсы РАДЗІВОНЧЫК Ніны Іванаўны і выказвае спачуванні родным і блізкім, а таксама прыхільнікам яе творчасці.

# Усе мы — з крыніцы, назва якой — Беларусь…

Кастусь ЛАДУЦЬКА

**Валерый КАЗАКОЎ — асоба, якую ў Беларусі прадстаўляць не трэба. Хаця і жыве наш зямляк у Маскве, ён часты госць у Мінску, іншых гарадах, рэгіёнах краіны. Валерый Казакоў узначальвае супольніцтва — ФНКА "Беларусы ў Расіі". Гэтым — акрамя, зразумела, звычайнай прывязанасці да роднай старонкі — і абумоўлены многія сустрэчы, грамадская актыўнасць нашага суразмоўцы. Але ж пра ўсё — з вуснаў самога Валерыя Мікалаевіча, які ахвотна пагадзіўся адказаць на пытанні "ЛіМа".**



**— Валерый, ты ўжо заявіў пра сябе і як актыўны ўдзельнік грамадскага жыцця ў Беларусі, і як пісьменнік з беларускімі каранямі… А раскажы ўсё ж такі крыху пра сябе. Думаю, што чытачам літаратурнай газеты ў Беларусі будзе цікава ведаць, як, якімі сіламі трэба быць прывязаным да дому, каб у чалавеку пастаянна жыла цяга вяртання…**

— Пачну з таго, што я лічу сябе беларусам і ніколі гэтага не цураўся, бо "пісьменнік з беларускімі каранямі" — гэта нешта кшталту, прабачце, ваўка з лісіным хвастом. Калі трохі набраўся юнацкага розуму, — гэта ўжо пасля салдацкай службы, "у літаратурна-палітычнай вучэльні" — на пытанні пра паходжанне і адносіны да веры пачаў адказваць аднолькава: беларус, праваслаўны. З часам маленькая коска паміж гэтымі словамі кудысьці знікла. Вось так да гэтага часу і пішу ва ўсіх анкетах. Беларусам нельга стаць, ім трэба, як і яўрэем, нарадзіцца. Здавалася б, жывеш ты доўга на чужыне — і ўсё ў цябе ёсць, усё складваецца так, што лепей і не трэба: і хата ёсць, і жонка, і нядрэнная праца, і нават грошы… Але нешта пачынае муляць, трымцяць вантробы, хоць і хваробы ніякай няма. Душа сумуе! І аказваецца, што ты хворы невылечна адным — цябе цягне да той хаты, з якой пайшоў у вялікі свет. Да таго дамочка, што прытуліўся на ўскрайку вёскі, на рагу змрочнай, з цяжкімі і пахмурнымі векамі-дрэвамі пушчы. І тады пераконваешся, умацоўваешся ў разуменні, што куды б ты, дзівак-чалавек, з дому не з'язджаў, ты цалкам не можаш роднае, сваё месца пакінуць. Яно, месца, — у табе. Большасць цябе самога — там, дзе нарадзіўся, дзе бацькі, радня, першае каханне, дзяцінства, бабуліны казкі, клады прашчураў. Як жа ты з сабою гэта забярэш у далёкія гарады?! Толькі дурань ці чалавек з выпаленай душою гэтага не адчувае і не разумее.

Лёс беларуса, як і самой зямлі нашай, вельмі складаны. Увесь свет высыпаны сузор'ем беларусаў. Няма дзяржавы ці проста мясціны, дзе ты не знайшоў бы беларуса ці некага з беларускімі каранямі. А галоўнае, што сярод сыноў і дачок нашай Айчыны нямала выбітных, знакамітых асоб, нават кіраўнікі самага высокага рангу ёсць.

У Беларусі жыве і працуе вельмі цікавы чалавек — Мікалай Іванчанка. Усе ведаюць яго як дзяржаўнага чыноўніка высокага рангу. А ён яшчэ і глыбокі філосаф, чалавек, чуйны да сімвалаў і вобразаў, у параўнаннях, якія надае тым ці іншым з'явам, даходзіць да паэтычнага ўздыму. Прынамсі, ён перакананы, што Беларусь у яе гістарычных межах з'яўляецца невычэрпнай крыніцай магутнага святла, дабрыні, міласці, розуму і парадку. Як ніякая іншая краіна, як ніякая іншая прастора! І галоўнае, што Мікалай Іванчанка гэта выкладае надзвычай доказна. Кніга, над якой ён працуе, называецца "Крыніца Бога". Адна назва чаго вартая! І гэта — пра нашу Радзіму!..

Усе мы — з гэтай крыніцы.

**— Як складвалася твая творчая біяграфія ў Расіі?**

— Жыць у Расіі ва ўсе часы было вельмі складана, як за царамі, потым за саветамі, за дэмакратамі і вось цяпер за алігархамі… Але ж нічога, неяк людзі ідуць у жыццё, выкараскваюцца… Зразумець гэтую краіну на цвярозую галаву немагчыма. Аршынам агульным вымераць нельга, бо тут у кожнага свой аршын. Але на гэты конт давай неяк іншым разам паразважаем.

Як складвалася творчая біяграфія… Ды пісаў сабе памалу, з самага дзяцінства пісаў. Дзякуй Богу, мне шчасціць на сустрэчы з добрымі і цікавымі людзьмі. Дзякуй Богу, падаравана мне і ўменне слухаць і чуць. З успамінаў пра сустрэчы, супольную грамадскую, творчую працу, сяброўства цяпер складваю кнігу "Ад Батуры да Батуры".

Неяк так здарылася, што ўсур'ёз пісьменніцтвам пачаў займацца позна. Першая кніга прозы пабачыла свет у 2003 годзе. Да гэтай пары, праўда, надрукаваў шмат вершаў, займаўся публіцыстыкай. Нават нейкія кніжкі выходзілі. А пасля з'явіўся "Цень гобліна"… Гвалт пачаўся яшчэ ў выдавецтве: "…здымай гэта і тое, ці раскідаем макет". Зняў, а сам пра сябе ўсміхаюся, усё адно ж раман цалкам ужо надрукаваны ў часопісе "Сибирские огни". Толькі за адзін год раман пераклалі на ўкраінскую, польскую, эстонскую, сербскую мовы, урыўкі — на англійскую і нямецкую. Выйшла гэтая рэч і па-беларуску, атрымала дзве прэміі. Потым нечакана нават і дзеля самога сябе з'явіліся "Халопы" ці "Халоп яснявільможнага дэмакрата". Узяліся перакладаць французы і амерыканцы, але я мяркую, што з гэтага нічога добрага не атрымаецца. Можа, лепей будзе па-ўкраінску гэты твор гучаць. Цяпер працую над раманам "Шэрая плошча", пра галоўную плошчу Расіі. Калі хтосьці думае, што такой плошчай з'яўляецца "Чырвоная", ён памыляецца: галоўная пляцоўка ўлады трохі адрынутая ад Крамля і завецца… Не, усяму свой час.

Тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі, мяне вельмі турбуе, можа, таму я ўсё пазакідваў і ўжо дапісваю аповесць "Тапоны". Калі будзе ўсё добра, праз нейкі кароткі час чытачы яе і ўбачаць.

**— Высокае грамадскае становішча, якое ты заняў у арганізацыі, аб'яднанні беларусаў Расіі, дазваляе болей дэталёва разгледзець многія працэсы… Што сёння, на твой погляд, уяўляе беларуская дыяспара ў Расійскай Федэрацыі?**

— Беларуская дыяспара ў Расіі шматкольканая. Усяго беларусаў афіцыйна па перапісе 2002 года лічыцца 816 тысяч, а раней іх было мільён дзвесце тысяч. За дзесяць гадоў паўмільёна кудысьці знікла. З трывогай чакаю вынікаў апошняга перапісу. Галоўная прычына знікнення — беларусы асімілююцца, перастаюць усведамляць сябе беларусамі. На жаль, гэта так. Чаму? На тое ёсць шмат прычын. Не апошняе месца займаюць і занядбанне роднай мовы ў метраполіі, скасаванне запісу нацыянальнага паходжання ў расійскім пашпарце, інтэрнізацыя жыцця і агульная ўніфікацыя. Што будзе з намі далей — ужо і так бачна: мы можам знікнуць як выбітны этнас паза межамі Беларусі. Ці добра гэта? Лічу, што не. Адсюль і перамены ў кірунках працы нашай супольнасці. Мы вырашылі: ад аднаго толькі замілавання скокамі і спевамі трэба пераходзіць да беларускай работы. А гэта — ладзіць беларускія школы, факультатывы, падкрэсліваць сваю ўнікальнасць, адметнасць, шукаць і замацоўваць навукова свае карані, распаўсюджваць звесткі пра ўклад беларусаў у навуку і культуру Расіі, а яшчэ рабіць працу па вяртанні на Радзіму каштоўнасцей, калісьці адсюль звезеных.

> *Лёс беларуса, як і самой зямлі нашай, вельмі складаны. Увесь свет высыпаны сузор'ем беларусаў. Няма дзяржавы ці проста мясціны, дзе ты не знайшоў бы беларуса ці некага з беларускімі каранямі. А галоўнае, што сярод сыноў і дачок нашай Айчыны нямала выбітных, знакамітых асоб, нават кіраўнікі самага высокага рангу ёсць.*

**— І які плён ад новых крокаў?**

— Нешта ўжо атрымліваецца. Зрабілі электронныя каляровыя копіі тэкстаў двух старажытных летапісаў: Слуцкага і Баркалабаўскага, рыхтуем іх кніжнае выданне і перадачу Нацыянальным бібліятэцы Беларусі. Зрабілі нядрэнныя копіі карцін са славутага збору Нямцэвіча, якія часова былі вывезены ў 1914 годзе са Скокаў, што на Берасцейшчыне. Цяпер ладзім адліўку гармат, якія калісьці упрыгожвалі Нясвіжскі замак і таксама часова былі звезены з нашай краіны. І яшчэ шмат чаго іншага...

На жаль, справамі беларусаў замежжа ў Мінску ніхто сур'ёзна не займаецца. Гэтая праблема, як тая каша, размазана па талерцы: трохі Міністэрства культуры, трохі Міністэрства замежных спраў, трохі Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей, трохі іншыя ўрадавыя структуры. А жыццё пераконвае, што калі ўсе патроху, гэта насамрэч — аніяк. Няма ні праграмы, ні закона аб суайчынніках і працы з імі. Можа, хтосьці чакае, пакуль мы зусім знікнем — і клопатаў ніякіх у чыноўнікаў не будзе. Дык я ўсіх супакою: гэты час далёка, бо мы ўпартыя і будзем самі за сябе змагацца.

У розных рэгіёнах суполькі працуюць па-рознаму. Сярод лепшых можна пазначыць Маскву, кіраўнік — Сяргей Кандыбовіч, Пецярбург — Мікола Русакевіч, Іркуцк — Алег Рудакоў, Цюмень — Уладзімір Шугля, Сургут — Сяргей Бандарэнка, Самара — Ірына Глуская, і шмат хто яшчэ.

Ёсць і другі бок работы ў дыяспары, на што варта звярнуць увагу. Шмат хто з нашых землякоў працуе на расійскую дзяржаву, сярод беларусаў шмат дэпутатаў усіх узроўняў… Калі б усіх хоць трохі падштурхнуць да справы дапамогі сваёй Радзіме, то Беларусі і нафта з газам не былі б так патрэбныя. Але, на жаль, беларушчына ў многіх, памяць пра радзіму далей келішка і нецвярозых спеваў не ідзе. Калі самі яны яшчэ тое-сёе з беларускага жыцця памятаюць, то дзяцей сваіх беларушчыне не вучаць, мовай роднай не валодаюць. Але будзем працаваць з усімі.

Так, здавалася б, у Расіі ёсць і закон аб ФНКА, і ўмовы для працы, аднак далей дэкларацый падтрымка дзяржавы не ідзе. Пра дыяспары расійская ўлада ўспамінае толькі тады, калі прыпячэ… Вось неўзабаве павінны адбыцца выбары, пра нацменшасці абавязкова ўспомняць і паклічуць кагосьці "падпіраць", каб не звалілі. Але і мы не лыкам шытыя, сваё меркаванне маем. І далей будзем працаваць на карысць Беларусі, здаровага, паважлівага развіцця беларуска-расійскіх адносін.

**— Твая проза акрэсліла новы накірунак… Востра і дастаткова трапна, на мой погляд, у тваіх творах адлюстраваны сацыяльныя, грамадскія з'явы, што сведчаць пра вялікія пагрозы маральнаму здароўю грамадства… Твае прагнозы як пісьменніка і грамадскага дзеяча: ці ёсць у нас шанс выжыць і выстаяць у сённяшніх няпростых працэсах дэвальвацыі многіх сапраўдных каштоўнасцей?**

— Апошняе пытанне, як заўсёды, самае цяжкае. Што будзе з нашымі дзяржавамі? Спадзяюся, што горш не будзе, і ўжо тое добра. Ведаеш, як гэта ні дзіўна, але ў Беларусі, на маю думку, пры ўсіх недахопах валюты, пры тым гвалце з розных бакоў, пры тым, што хапае здраднікаў і сярод былых паплечнікаў у стварэнні суверэннай, новай дзяржавы, становішча не горшае, чым у таўстапузай Расіі. Там ёсць, на першы погляд, усё, але ўласныя ж толькі нафта і газ, астатняе — чужое, завезенае… Ёсць пазіцыі тавараў і паслуг, якія на 95 працэнтаў замежныя. Каб прымусіць Расію нешта зрабіць супраць яе волі, не патрэбны ніякія войны і бойкі, трэба скасаваць продаж прадуктаў харчавання — і ўсё. Праз месяц ці тры яна будзе вымушана выканаць тое, што ад яе патрабуюць, выканаць самыя бязглуздыя і самыя антырасійскія патрабаванні.

У Беларусі становішча іншае. І я ўпэўнены, што ў беларусаў знойдуцца сілы, каб усё адолець і далей жыць па-людску. Час падказвае, што патрэбны нейкія змены і болей інтэнсіўнае развіццё, і гэта абавязкова адбудзецца. Дрэнна працуюць у рэспубліцы не эканоміка і сельская гаспадарка, а нешта іншае. Паменей бы ў нашай Айчыне на ўсіх узроўнях і "унтер-пришибеевых", і "органчиков". Трэба паважаць народ і імкнуцца ўсім быць на ўзроўні лідара нацыі.

*27 мая ў навукова-метадычным цэнтры “PRэзентацыя” выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” адбылося пасяджанне Экспертнага савета па прэміях Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Экспертны савет пад старшынствам Першага намесніка Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Карачэўскага і намесніка Міністра культуры Расійскай Федэрацыі Паўла Харашылава зацвердзіў кандыдатуры пяці намінантаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2011—2012 гады. Саіскальнікамі прэміі ад Расійскай Федэрацыі сталі: паэт Глеб Гарбоўскі за паэтычны цыкл “Беларускі сшытак”, паэму “Чмель у аўтобусе”, выбраныя вершы 1969—1994 гг., прадстаўленыя ў 2 і 3 тамах збору твораў аўтара; народны артыст Расійскай Федэрацыі і народны артыст СССР Юры Башмет за канцэртныя праграмы ў рамках штогадовых аўтарскіх фестываляў у Мінску (2006—2009 гг.), што ўключалі сумесныя выступленні беларускіх і расійскіх музыкаў і выканаўцаў, а таксама выкананне твораў беларускіх і расійскіх кампазітараў; аўтарскі калектыў мастакоў за калекцыю паўлавапасадскіх шаляў “Спадчына”. Ад Рэспублікі Беларусь намінаваныя: народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі за серыю жывапісных і графічных прац “Гісторыя і сучаснасць”, серыю графічных цыклаў “Высокае неба”, “Радзіма касманаўтаў”, “Паўночны марскі шлях”, “Чарнобыль. Будні беларускія”, “Час доўгіх нажоў”; графічныя серыі афортаў і літаграфій да кніг “Слова пра паход Ігаравы”, “Аповесці” Васіля Быкава, “Яна і я” Янкі Купалы, “Выбранае” Якуба Коласа; аўтарскі калектыў спектакля “Вяселле” паводле А. Чэхава Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Рашэнне аб прысуджэнні прэміі тром з пяці намінантаў будзе прынята Экспертным саветам у верасні 2011, пасля таго як пройдуць прафесійнае і грамадскае абмеркаванні.*

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Па выніках пасяджэння Экспертнага савета па прэміях Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва ладзілася прэс-канферэнцыя для вядучых сродкаў масавай інфармацыі Беларусі і Саюзнай дзяржавы. Падчас яе экспанаваліся работы саіскальніка на прэмію за 2011 — 2012 гады народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага. Георгій Георгіевіч добра вядомы не толькі на радзіме, а і далёка за яе межамі, бо яго творы знаходзяцца ў шматлікіх музеях і прыватных калекцыях як у Беларусі, так і ў Швейцарыі, Германіі, Аўстрыі, ЗША, Індыі, Украіне, Расіі…**



# Шэсцьдзясят год творчасці

Георгій Паплаўскі — кіраўнік майстэрні графікі Творчых акадэмічных майстэрань жывапісу, графікі, скульптуры, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны (за серыю акварэляў “Браслаўскі альбом” і цыкл графічных работ з творчых паездак па Інданезіі і Кубе), кавалер ордэна Дружбы народаў і многіх міжнародных прэмій. За работы цыкла “Індыйскі дзённік” і афармленне кнігі “Тырукурал” індыйскі ўрад адзначыў яго Міжнароднай прэміяй Джавахарлала Нэру.

Георгій Георгіевіч — жывапісец, акварэліст, ілюстратар, графік, працуе ў разнастайных тэхніках станковай і кніжнай графікі, станковага жывапісу. Асобная старонка творчасці мастака — афармленне кніг. Дарэчы, на міжнародным конкурсе ў Лейпцыгу ў 1968 годзе за ілюстрацыі да кнігі Якуба Коласа “Новая зямля” творца атрымаў дыплом “Найпрыгажэйшая кніга свету”.




На прэс-канферэнцыі старшыня Саюза мастакоў Расіі, член прэзідыума Расійскай акадэміі мастацтваў, народны мастак Расійскай Федэрацыі Андрэй Кавальчук зазначыў, што дадзеная прэмія вельмі патрэбная нашым дзяржавам. Андрэй Мікалаевіч знаёмы з Георгіем Паплаўскім з дзяцінства, шануе яго творчасць. Ён паведаміў, што з расійскага боку на прэмію вылучана калекцыя паўлавапасадскіх хустак і шаляў “Спадчына” — вынік працы аўтарскага калектыву Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры. У Беларусі гэта калекцыя экспанавалася на выстаўках “Кветкі Расіі” ў Магілёве, Бабруйску, Гомелі, Лідзе, Гродне, Маладзечне, Любані, на “Славянскім базары ў Віцебску”.

Сам намінант на прэмію Саюзнай дзяржавы Георгій Паплаўскі адзначыў, што ён не фанабэрысты чалавек, не адмаўляецца ад таго, што яго вылучылі, але ж у Беларусі дастаткова годных прэтэндэнтаў і акрамя яго. Мастак падрыхтаваў дакументы і паглядзеў, што і сапраўды стварыў вельмі шмат за шэсцьдзясят творчых гадоў. Свае творы яму цяжка ацэньваць, а сам ён галасаваў бы за Юрыя Башмета.

Георгій Георгіевіч падкрэсліў, што нашы жывапісцы ўжо атрымлівалі прэміі, прыкладам, Міхаіл Савіцкі і Леанід Шчамялёў (адзначаліся таксама скульптары Леў ды Сяргей Гумілеўскія). А графікаў чамусьці не заўважаюць. Увогуле, мастацтву графікі, ілюстрацыі цяпер няк мала надаецца ўвагі. Але ж графіка — дастойны і неабходны від мастацтва.

Георгій Паплаўскі падабраў спецыяльную калекцыю сваіх твораў, так бы мовіць, рэпартаж свайго творчага жыцця, аповед пра тыя падзеі, якія адбываліся ў нашых краінах.

Жывапісныя і графічныя работы мастака — шлях спасціжэння гістарычных лёсаў славян, сцвярджэнне маральных вытокаў гераізму народа ў часы выпрабаванняў і жыццесцвярджальны пачатак сучаснай рэчаіснасці. Партрэты сучаснікаў, слынных прадстаўнікоў духоўнай культуры мінулых стагоддзяў, сюжэтныя творы пра Вялікую Айчынную вайну і працоўныя будні Беларусі і Расіі складаюць эпічную аповесць жыцця народаў нашых краін. Работы Георгія Паплаўскага адрозніваюцца яркай індывідуальнасцю, нацыянальнай характэрнасцю, завершанасцю мастацкай формы, пластычнасцю ліній. Яго творчасць — адметная з’ява ў сучаснай мастацкай культуры. Яна адлюстроўвае адмысловы склад мыслення, аналітычныя адносіны да свету, вострае разуменне і бачанне яго, арыгінальны падыход да прафесійных задач.

***На здымках: Георгій Паплаўскі і яго работа “Сын зямлі беларускай — Францыск Скарына”.***

# Аб’яўляем вас мужам, жонкаю і… намінантамі!

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**На прэмію Саюзнай дзяржавы намінаваны адзін з самых эпатажных і супярэчлівых спектакляў беларускай тэатральнай прасторы — “Вяселле”.**



На прэс-канферэнцыі па выніках пасяджэння Экспертнага савета прагучала прапанова: звярнуць увагу на маладых творцаў і зрабіць для іх асобную намінацыю. Прадстаўніца фонду падтрымкі гуманітарных і творчых праектаў “Рух” (адзін з афіцыйных партнёраў прэміі па інфармацыйным суправаджэнні) Жана Кікнадзэ запэўніла прысутных, што праца ў гэтым кірунку вядзецца. Але моладзь ніколі не чакае. І сярод саіскальнікаў ужо гэтым разам апынуўся малады маскоўскі рэжысёр Уладзімір Панкоў, які два гады таму паставіў на беларускай сцэне спектакль “Вяселле”.

“Вяселле” — гэта жорсткае падпарадкаванне чэхаўскага тэксту форме, каркасам для якой з’яўляецца гук. Жанр спектакля вызначаны як “саўндрама” (асаблівы сінтэз музычнага і драматычнага тэатра). Дзеяннем— вяселле маскоўскага жаніха і беларускай нявесты ў антуражы старой савецкай сталоўкі (мастак Максім Абрэзкаў) — кіруе гукавая партытура, якая складаецца з жывой музыкі, абрадавых спеваў, лязгату сталовых прыбораў, бясконцых паўтораў рэплік, гульні ў словы, якую спараджае двухмоўе, ды шмат якіх іншых гукаў.

Уладзіміру Панкову ўдалося знайсці кампраміс паміж эксперыментальным прачытаннем чэхаўскага твора і акадэмічнымі традыцыямі Купалаўскага тэатра. Героі падпарадкоўваюцца задуме рэжысёра і форме спектакля, аднак гэтае падпарадкаванне не з’яўляецца гвалтоўнай перашкодай для раскрыцця вобраза і пакідае акцёрам пэўную прастору для самавыяўлення. Маленькая, тоненькая звонку і такая моцная ўнутры Нявеста (заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Зінаіда Зубкова), што палохае напышлівага Жаніха (Ігар Дзянісаў) старасцю: узрост маладой — адна з самых удалых метафар пастаноўкі. Кранальны Вясельны Генерал (народны артыст СССР і Беларусі Генадзь Аўсяннікаў), які адчайваецца знайсці чалавека ў некім з прысутных, але знаходзіць. Не персанаж, а мара пра Грэцыю, дзе “ўсё ёсць!”, — кандытар Дымба (народны артыст Беларусі Мікалай Кірычэнка). Бацька (народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук), які не стамляецца адмаўляць існаванне гэтай мары і імкнецца выкрыць Дымбу груздамі ды кашалотамі. Маці (Тамара Міронава), якая трымае грошы ў трохлітровым слоіку і выпускае яго з рук толькі, каб паставіць гэтыя самыя рукі ў бокі. Растроеныя ды расчацвяроныя вобразы тэлеграфіста Яця ды акушэркі Змяюкінай (маладое пакаленне купалаўцаў) патрабуюць спеваў, электрычнага асвятлення ды атмасферы…

Варта зазначыць, што спектакль вядомы не толькі на беларуска-расійскай прасторы. “Вяселле” мае адзін з самых зайздросных гастрольных лёсаў у краіне: за два гады яго пабачылі ў Азербайджане, Іспаніі, Расіі, Украіне, Францыі.

> *“Вяселле” — сумесны беларуска-расійскі праект Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Міжнароднай канфедэрацыі тэатральных саюзаў, Міжнароднага тэатральнага фестываля імя А.П. Чэхава пры падтрымцы Урада Расійскай Федэрацыі, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Урада Масквы. Праект падтрыманы Міждзяржаўным фондам гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД. Спектакль “Вяселле” быў пастаўлены да 150-гадовага юбілею А. П. Чэхава, які адзначыў у 2010 годзе. Прэм’ера спектакля адбылася 20 лютага 2009 года на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.*

Глядацкія меркаванні — як і пра кожны годны твор мастацтва — дыяметральна супрацьлеглыя. Так, напрыклад, трое з дзесяці экспертаў часопіса “Мастацтва” назвалі пастаноўку “расчараваннем 2009 года”, а двое, наадварот, “удачай”; газета “Вечерняя Москва” прылічыла “Вяселле” да самых громкіх і рызыкоўных праектаў прэстыжнага Чэхаўскага фестывалю.

Пра дыяметральнасць поглядаў на пачатку творчага партрэта аднаго з маскоўскіх рэжысёраў вельмі трапна і іранічна зазначыла тэатральны крытык Марына Давыдава: “Адны мяркуюць, што яго тэрміна трэба чым-небудзь узнагародзіць. Другія — што прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці”. Прыкладна так жа падзяляюцца меркаванні гледачоў і прафесіяналаў наконт спектакля Панкова. Хочацца спадзявацца, што першых будзе больш і у верасні аўтарскі калектыў спектакля “Вяселле” з намінанта ператворыцца ў лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва 2011—2012.

***На здымку: сцэна са спектакля.***

# 1920-я: сутыкненне метадалогій

## Перачытваючы працы Аляксандра Вазнясенскага

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

У навуковай літаратуры, прысвечанай гісторыі філалогіі 1920-х гадоў, асаблівая ўвага звяртаецца на аўтарскую тэрміналогію асобнага даследчыка, якая істотна ўплывала як на агульную сістэму метадалогіі самога вучонага, так і на далейшыя пакаленні філолагаў XX ст., якія звярталіся да яго спадчыны. Існуе цэлы шэраг артыкулаў і нават манаграфій гісторыкаў рускага літаратуразнаўства, дзе аналізуюцца тэрміны “остранение” (В. Шклоўскі), “единство и теснота стихового ряда” (Ю. Тынянаў), “литературный быт” (Б. Эйхенбаум), “вненаходимость”, “карнавал” (М. Бахцін) і інш. Кожны з тэрмінаў уваходзіў у код успрымання асобным вучоным мастацкай рэчаіснасці.

Трэба адзначыць, што менавіта ў 1920-я гг. тэндэнцыі да абнаўлення ўсіх сфер жыцця былі вызначальнымі. Гэтыя рэвізіяністычныя тэндэнцыі адбіваліся і на філалагічнай навуцы, дзе адбываліся працэсы перафарміравання галін ведаў, структуравання назапашанага ў XIX ст. навуковага патэнцыялу. Абнаўленне навукі патрабавала адкрыцця новых плоскасцей аналізу мастацкага твора, што дасягалася ў тым ліку і праз аўтарскую тэрміналогію даследчыкаў, а таксама праз запазычанне літаратурнай навукай тэрмінаў з іншых галін (так, тэрмін “хранатоп” быў успрыняты М. Бахціным з матэматычнага прыродазнаўства і тэорыі адноснасці Эйнштэйна, а тэрмін “поліфанія” ўзяты ім з агульнага музыказнаўства).

Сярод беларускіх вучоных 1920-х гадоў па шляху стварэння аўтарскіх літаратуразнаўчых тэрмінаў і пераасэнсавання ўжо існуючых пайшоў Аляксандр Мікалаевіч Вазнясенскі (1888 — 1966), выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта з дня яго заснавання, а з 1927 г. — прафесар гэтай адукацыйнай установы. Як адзначаў ён сам у выступленні на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, “у сучасны момант усё больш і больш аказваецца ўсьвядомленай тая думка, што пабудаваць гісторыю літаратуры не ўдалося… Менавіта гэты вынік прымусіў навуковую думку радыкальна перабудаваць мэтодолёгію навукі і імкнуцца да конструяваньня яе на іншых тэорэтычных асновах” (“Агляд беларускай літаратуры. Пасяджэньне Літаратурнай камісіі // Працы акадэмічнай конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 лістапада 1926 г.) — Мінск: Выд. ІБК, 1927. С. 335). Сярод філолагаў БДУ таго часу ён быў настроены найбольш радыкальна ў адносінах да рэфармавання літаратурнай навукі. У сваю сістэму літаратуразнаўчых метадаў Вазнясенскі імкнуўся ўвесці як мага больш разнастайных падыходаў, паказваючы шматфарбную палітру літаратуразнаўства, яго магчымыя кірункі развіцця. Насуперак *аметадалагічнаму эмпірызму* дарэвалюцыйнай тэорыі літаратуры і адзіна магчымаму марксізму, ён імкнуўся да плюралістычнасці падыходаў, у рэчышчы якой кожны даследчык абіраў бы свой надзел для аналізу і рабіў бы свае мікраадкрыцці: тут знаходзілася месца і марксізму, і фрэйдызму, і фармальнаму метаду, і псіхалагічнаму. Кожны з іх раскрываў пэўны бок мастацкага твора. Толькі аб'яднаўшы дадзеныя і вынікі прыватна-метадалагічных доследаў, можна было прыступаць да стварэння навуковай гісторыі літаратуры.

У сістэму аўтарскай канцэпцыі метадалогіі вывучэння літаратуры А. Вазнясенскага ўваходзілі такія тэрміны, як “канстатаванне (апісанне) / экзэгетаванне (тлумачэнне)”, “мастацкія актыўнасці”, “сінтэтычныя плыні ў літаратуры”, “ідэаграфічнасць / наматэтычнасць” і “генералізацыя / індывідуалізацыя” ў літаратуразнаўстве, “мастацкая тэлеалогія”, “класічны / рамантычны стыль”. Некаторыя з гэтых апорных установак былі створаныя самім вучоным, але ў большасці сваёй яны прыўносіліся з прац вядомых вучоных-філолагаў 1910—1920-х гадоў, а таксама акультураваны на літаратуразнаўчай глебе праз палажэнні бадэнскай школы неакантыянства (Г. Рыкерта і В. Віндэльбанда). Аналізу паходжання апошняй згаданай пары тэрмінаў — “класічны / рамантычны стыль” — і прысвечаны гэтыя разважанні наконт навуковага метаду А. Вазнясенскага.



Малюнак Марыі Лось

Упершыню сустракаецца выразнае вылучэнне тэрміналагічнай пары “класічны / рамантычны стыль” у “Справаздачы аб вучэбных занятках А. Вазнясенскага на этнолага-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ ў 1924/25 акадэмічным годзе”, дзе вучоны пісаў: “На працягу справаздачнага года я чытаў агульны курс па гісторыі рускай літаратуры эпохі прыгоннай гаспадаркі. У межах азначанага курса выкладзеныя асноўныя звесткі пра гісторыю двух галоўных стыляў у рускай літаратуры пачатку XIX ст. (10—30-ыя гады) — класічнага (рэалістычнага) і рамантычнага — на фоне сацыяльна-гістарычнага асяроддзя дадзенага моманту. У межах першага стылю разгледжаныя пісьменнікі: В.Т. Нарэжны, А.С. Грыбаедаў, К.Ф. Рылееў, А.С. Пушкін, М.Ю. Лермантаў, М.В. Гогаль. У сувязі з другім: А.А. Бястужаў-Марлінскі, М.М. Загоскін, М.А. Палявой. Агляд літаратурнай дзейнасці пералічаных аўтараў палягаў у пабудове іх паэтыкі і яе тлумачэнні з умоваў сацыяльнага і культурна-гістарычнага асяроддзя” (НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 815, л. 87). Пазней гэтае настойлівае супрацьпастаўляльнае злучэнне тэрмінаў знаходзім у манаграфічным артыкуле А. Вазнясенскага “Паэтыка Максіма Багдановіча”, дзе даследчык казаў пра тое, што “паэт ішоў дарогай сынтэзу, імкнучыся аб'еднаць у адно мастацкае суцэльнае найбольш высокія цэннасьці гэтых кірункаў і стыляў” (Паэтыка М. Багдановіча. — Коўна: Б.в., 1926, с. 54—55).

Супрацьпастаўленнем класічнага і рамантычнага стылю ў мастацтве займаўся ў 1910—1920-я гг. вядомы пецярбургскі філолаг В. Жырмунскі. Гэтай праблеме прысвечаны яго артыкулы “Два накірункі сучаснай паэзіі” (1919) і “Пра паэзію класічную і рамантычную” (1920). Пад азначанымі тэрмінамі В. Жырмунскі разумеў “два типа поэтического творчества”, чые асновы “лежат в области сверхэстетической и проявляются одновременно в различных сферах духовной культуры”. Рускі вучоны падкрэсліваў: “Мы же говорим сейчас не об историческом явлении…, а о некотором постоянном, вневременном типе поэтического творчества” (“Пра паэзію класічную і рамантычную”). З палажэннямі прац В. Жырмунскага А. Вазнясенскі быў знаёмы і аналізаваў іх у навуковым друку (гл. яго артыкулы “Поиски объекта (к вопросу об отношении метода социологического к формальному)” // Новый мир. — 1926. — № 6. — С. 117, а таксама “Die Methodologie der russischen Literaturforschung in den Jahren 1910—1925” // Zeitschrift fur slavische Philologie. — 1927. — Bd. IV. — р. 145—162).

В. Жырмунскі засноўваўся на доследзе нямецкага літаратуразнаўства і эстэтыкі таго часу, чые палажэнні ў немалой ступені вынікалі з дыяды Ф. Ніцшэ “дыянісійскі” / “апаланічны” пачатак у мастацтве (гл. яго раннюю працу “Нараджэнне трагедыі з духу музыкі”). Галоўнымі праблемамі тагачаснай нямецкай эстэтыкі якраз і з'яўляліся спробы характарыстыкі *духу* таго ці іншага мастака, яго творчасці альбо нават і перыяду ў літаратуры. Усё гэта было цалкам чужым для А. Вазнясенскага.

Вядома, часткова можна гаварыць і пра адмысловае перайманне, бо ў артыкулах А. Вазнясенскага пры вызначэнні аб'ёму паняцця “класічны” / “рамантычны” стыль сустракаюцца прамыя паўторы калі не думак, то вобразаў В. Жырмунскага: “Классический поэт имеет перед собой задание объективное: создать прекрасное произведение искусства, законченное и совершенное, самодовлеющий мир, подчиненный своим особым законам. Как искусный зодчий, он строит здание; важно, чтобы здание держалось, подчиненное законам равновесия” (“Пра паэзію класічную і рамантычную”). У А. Вазнясенскага: “Для поэты-клясыка мастацкі твор ёсьць зьявішча слоўнага мастацтва; яно будуецца як мастацка-прыгожы будынак, які падлягае ў сваім будаваньні вядомым законам. Асноўныя вымаганьні гэтых законаў зводзяцца да таго, каб мастацкі твор, які будуецца з матэрыяльных даных вонкавага сьвету, меў унутраную роўнавагу і лёгічнае завяршэньне” (“Паэмы Янкі Купалы” // Узвышша. — 1927. — № 1. — С. 83). Аднак пры параўнанні падыходаў А. Вазнясенскага і В. Жырмунскага становіцца зразумелым, што беларускі філолаг, прымаючы ў агульных рысах канцэпцыю рускага калегі, імкнуўся да пераводу інтуітыўных “пазачасавых” асаблівасцей кожнага стылю ў рэчышча дакладных падлікаў. В. Жырмунскі, будучы наступнікам сімвалісцкай крытыкі, шмат у чым пераймаў адпаведны стыль і погляд, злучаны з імпрэсіяністычным асэнсаваннем праблем літаратуры, з увагай да містычнага пачатку яе (за гэта ён, між іншым, неаднаразова крытыкаваўся ў 1920-я гг. апалагетамі фармальнай школы літаратуразнаўства). У А. Вазнясенскага аднясенне таго ці іншага літаратурнага тэксту да класічнага альбо рамантычнага стылю павінна было пацвярджацца колькаснымі метадамі статыстыкі. Паказальна, што ў сваёй працы “Размеркаванне маўлення ў пяціактавай трагедыі (да пытання аб класіцызме і рамантызме)” да таго ж пытання звяртаўся ў 1920-я гг. рускі метадолаг Б. Ярхо. Гэты філолаг, спадчына якога толькі нядаўна пачала вяртацца ў шырокі навуковы ўжытак, распрацоўваў праблему “метадалогіі дакладнага літаратуразнаўства”, спрабуючы стварыць для філалагічнай навукі трывалае апірышча ў выглядзе сістэмы колькасных метадаў, на аснове якіх можна было б выявіць аб'ектыўныя законы развіцця літаратуры. Істотна, што рускі вучоны спасылаецца ў вышэйадзначаным артыкуле на працу нямецкага філолага Ф. Штрыха “Нямецкі класіцызм і рамантызм, альбо Бясконцасць і завершанасць” (1922) (гл. заўвагі М. Акімавай у публікацыі работы Б. Ярхо: Philologica. — 1997. — vol. 4. — № 8/10. — С. 201-288). А. Вазнясенскі таксама згадвае гэтага нямецкага вучонага ў сваім артыкуле «Традиция “формальных” (эстетических) изучений в науке о литературе». Минск: БГИ, 1927. С. 32) побач з падзелам на “дыянісійскі” і “апаланічны” пачатак у мастацтве (Ф. Ніцшэ).

Такім чынам, А. Вазнясенскі карыстаўся тэрмінам “класічны / рамантычны стыль”, запазычыўшы яго з нямецкай класічнай філалагічнай і філасофскай думкі, паказваючы адначасова і розніцу двух светаадчуванняў (аснова “нямецкага” погляду на праблему), і ўласна аналіз класіцызму і рамантызму як літаратурных плыняў у славянскай літаратуры. Прычым, XVIII ст. — пач. XIX ст. у рускай літаратуры ён вызначае як перыяд суіснавання двух “чыстых” стыляў: класічнага і рамантычнага (гл. “Програмы выкладаньня на 1927—1928 год. Пэдагогічны факультэт. I. Літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне”. Менск: БДУ, 1928. С. 46—47). У пушкінскі час пачынаецца змешванне двух напрамкаў, якое да сярэдзіны XIX ст. дасягнула стадыі сінтэзу. Той час барацьбы напрамкаў Ю. Тынянавым быў ахарактарызаваны супрацьстаяннем “архаістаў” і “наватараў”. У гэтай стадыі сінтэзу і сінкрэтызму руская літаратура, а побач з ёй і беларуская знаходзіліся на працягу сярэдзіны XIX — пач. XX ст. Падобным станам сінтэзу А. Вазнясенскі акрэсліваў і сучасную яму беларускую літаратуру. Дарэчы, неразуменне самімі беларускімі пісьменнікамі логікі разважанняў Вазнясенскага, няведанне генезісу праблемы сінтэтычнага, пазастылявога мастацтва прывяло іх да канфлікту з вучоным, што праявілася падчас Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г. Пісьменнікі (Дубоўка, Бабарэка, Гартны) падумалі, што Вазнясенскі ўсхваляе такі стан рэчаў, калі беларуская літаратура атрымала пашырэнне і свабоднае развіццё толькі ў час вольнага, пазанарматыўнага мастацтва. У прыватнасці, У. Дубоўка палічыў за абразу ўхваленне таго, што беларуская літаратура не мела магчымасці паўнавартасна развівацца ў іншыя часы, нават і калі яны былі звязаныя з цвёрда вызначанымі патрабаваннямі да тэхнікі напісання мастацкага твора.

А. Вазнясенскі, як ужо адзначалася, у цікавасці да гэтай праблемы быў не адзінокі: разам з ім гэтае пытанне закранаў В. Жырмунскі і Б. Ярхо. У той жа час менавіта А. Вазнясенскі прапанаваў сінтэз двух падыходаў да тэрміналагічнай пары “класічны / рамантычны стыль”, разглядаючы апошнюю і як светапоглядныя канстанты творцы (якія, тым не менш, можна ахарактарызаваць і прааналізаваць у катэгорыях паэтыкі), і як самапэўныя культурныя перыяды развіцця літаратуры. Яго ж заслуга — прапанова разглядаць прычыну жанравай сінкрэтычнасці рускай і беларускай паэзіі ў сінтэзе класічнага і рамантычнага стыляў.

Алена СВЕЧНІКАВА

# Залаты сон

## Развагі пра аповесць Васіля Гігевіча «Страчанае шчасце»

У арсенале кожнага пісьменніка ёсць універсальныя вобразы і матывы, якія становяцца асновай твора, інварыянты, якія напаўняюцца — у залежнасці ад эпохі — новым сэнсам. Аналіз гэтых (архетыпічных) сімвалаў і матываў дапамагае зразумець, што нас злучае з мінулым, што з'яўляецца найважнейшымі праблемамі сучаснасці. Назва аповесці Васіля Гігевіча паказвае на ідылічную эпоху ў гісторыі чалавецтва, да якой немагчыма вярнуцца. Мара пра мінулае, пра "залаты век" прадвызначае будучыню. Паколькі пісьменнік заўсёды з'яўляецца камертонам, які чула ўлоўлівае грамадскі настрой, цалкам дапушчальна казаць, што дух эпохі, спадзяванні народа і яго ідэалы выяўляюцца ва ўтопіях нашага часу.

Найстаражытнае ўяўленне пра цыклічнасць гісторыі — гэта ідэя пра паступовую дэградацыю грамадства (і шырэй — чалавецтва). Яшчэ Гесіёд (VIII—VII стст. да н. э.) пісаў, як змяняюцца пакаленні людзей — залатое, якое, не ведаючы гора, валодае чароўнай дасканаласцю, "спакойнай і яснай душою", затым срэбнае (пакаленне людзей празмерна ганарлівых і непачцівых да багоў), меднае (схільнае да вайны і гвалту) і, нарэшце, пакаленне жалезных людзей, якім перадышкі не будзе "ні ўначы, ні днём ад працы і ад гора, і ад няшчасцяў" у тыя часы, калі "праўду заменіць кулак", "сорам знікне" і "ад зла збавення не будзе".

Прыкладна праз тысячагоддзе ў Міжземнаморскім арэале сфарміравалася ўяўленне, што ў канцы часоў дэградацыя чалавецтва дасягне максімуму, адбудзецца бітва Дабра і Зла, і ўсе (грэшнікі і праведнікі) атрымаюць па заслугах. Розныя апакаліпсісы апісвалі карціны маштабных бедстваў.

Паколькі ад эпохі да эпохі колькасць сацыяльных праблем узрастае, роўна як і ўвага да апошніх, жанр утопіі набывае ўсё большую папулярнасць. Утапічная традыцыя сфарміравана Платонам, Томасам Морам, Кампанелай, сацыялістамі (К. А. Сен-Сімонам, Ш. Фур'е, Р. Оуэнам), марксістамі і г.д. Французскі паэт П'ер-Жан Беранжэ пісаў пра сацыялістаў-утапістаў:

*Спадары!*
*Калі да праўды святой*
*Свет дарогі знайсці не ўмее —*
*Гонар вар'яту, які навее*
*Чалавецтву сон залаты!*

"Залаты сон" — "залаты век" у аповесці В. Гігевіча — гэта стан першабытнасці. Аўтар апісвае тыя дні, калі адносіны паміж людзьмі былі простыя, пачуцці і вера — моцныя, і прырода была маці, а не матэрыялам для перапрацоўкі. Аўтар спрабуе ўзнавіць уласцівае палеалітычнаму чалавеку наіўнае ўспрыманне свету, яго захапленне Космасам і ўсім светапарадкам. У той час як наш урбанізаваны свет сцірае з зямной паверхні рэшткі лясоў, а чалавек губляе чалавечнасць (вечная тэма!), аповесць робіцца акном у неймаверную старажытнасць, калі фарміраваліся першыя правілы чалавечага сумеснага жыцця, першыя вераванні. В. Гігевіч з рэдкім пастаянствам (што прасочваецца ў яго творах апошніх трох дзесяцігоддзяў) паўтарае ключавыя пытанні: што ёсць Бог? што ёсць каханне? што такое адзінота — можа быць, гэта ўсё наша жыццё?

Адзінота ў сучасным свеце адчуваецца асабліва востра. Распадаецца не толькі сувязь часоў — распадаюцца сувязі паміж людзьмі, сям'я даўно ўжо не з'яўляецца спаяным калектывам, якім яна была ў традыцыйным грамадстве, сям'я будучыні можа стаць нават не класічнай трыядай (бацька — маці — дзіця), а тым, што прынята называць "няпоўнай сям'ёй". Пастаральны пейзаж аповесці становіцца фонам, на якім аўтар расстаўляе ключавыя паняцці: Бог — каханне — адзінота — род — спакуса — бяда — нянавісць — няшчасце — жах. Першабытнасць паўстае нейкім ідэальным светам: племя збіральнікаў — гэта адна сям'я, вельмі маленькая супольнасць, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць, дзе ўсё сплецена сувяззю залежнасці, кахання (у большай ступені, чым непрыязнасці) і ўзаемадапамогі. Фактычна, у гэтым партрэце няцяжка пазнаць ідэалізаваную выяву традыцыйнай вёскі. У сучаснага гараджаніна, які яшчэ мае сувязь з "глебай", сум па сям'і — а род, па сутнасці, вялікая сям'я — вельмі моцны. З якім трапяткім пачуццём аўтар малюе карціну вячэрняга адпачынку: заснежаная зямля, вогнішча, да якога сышліся жанчыны, дзеці, мужчыны-абаронцы, адчуванне "салодкай нябачнай еднасці" — роду! "Зноўку і зноўку людзі зразумеюць, што без гэтага пачуцця еднасці ім ніколі, ні цяпер, ні ў будучым, не выжыць…"

Маленькае паляўнічае племя стала мадэллю, вобразам сённяшняга чалавецтва: род раз'ядаюць суперніцтва і варожасць. Выратаванне — у людскасці, у спачуванні, ва ўзаемадапамозе, у тым, што адрознівае нас ад звяроў.

Гігевіч успрымае светабудову як цэласнасць: усё аб'яднана, усё адзінае. І людзі, і прырода, і космас. Усё існае аб'яднана каханнем: "…звяры і птушкі, мурашы і казюркі… трава і кусты… усё, усё пранізана каханнем, без якога ніхто жыць не можа…" І гэта вялікая таямніца.

Аналіз твора В. Гігевіча паказвае, што кульмінацыйны момант аповесці — сон галоўнага героя, у якім ён бачыць Зямлю, як кроплю ў чорнай бездані, і разумее, што бясконцыя зорныя сістэмы, гэта бажаство — Усемагутны, і ўсё існае працінае яго жывая і жыватворная сіла. Гэтае апісанне велічнага і дасканалага Сусвету, які паўстае зорным сусветным Дрэвам — найпрыгажэйшы вобраз аповесці.

Каб чытач не заблукаў у пастаральных прасторах старажытнасці, аўтар нагадвае: гаворка па сутнасці не пра нашых продкаў, а пра нас сённяшніх. Адбываецца рэзкі парыў у тканіне мастацкага часу, нечаканы скачок у будучыню: "сучаснасць" маркіруецца нечаканым дзеясловам "гулівудзіць". Гэта значыць, часы злучае неназваны казланогі "нехта", які мае свіны лыч і хвост, і кліча людзей забаўляцца і атрымліваць асалоду — "гулівудзіць", быць самастойным і жыць сваім розумам. Матыў спакусы вельмі важны і архетыпічны, ён — фрагмент рэлігійнай карціны свету, на якой чалавецтва выяўлена як цацка ў руках сіл дабра і зла. Аўтарам праводзіцца ідэя пералому руху чалавечай гісторыі, прынцыповай памылкі чалавецтва. Такім чынам, вымалёўваецца важны апакаліптычны матыў: дэградацыя чалавецтва заўсёды мае пэўныя прычыны. Апакаліпсіс як жанр немажлівы без постаці ворага. У аповесці вораг знойдзены: гэта геданізм і гуманізм (як вера ва ўласныя сілы і розум чалавека), якія тлумачацца як усёдазволенасць. Абвінавачанне геданізму закранае сённяшнюю размытасць гендарных роляў, нетрадыцыйны вонкавы выгляд мужчын і жанчын. Аўтарам даецца малюнак сучаснага ліберальнага грамадства як сістэмы з парушаным парадкам (адзначу, што парушэнне сусветнага парадку — найстаражытная міфалагема, характэрная для апакаліпсісаў). У свеце верхаводзяць Бяда і Нянавісць, а інфернальная істота "спакушае чалавека шчасцем": пачуццёвымі забаўкамі і матэрыяльнай выгодаю. Але ў выніку ашуканы чалавек разумее, што шчасце не дасягнута, ён бездапаможны і "нічога не ведае ні пра сябе, ні пра навакольны свет". І з'яўляецца Адзінота. Але гэта — у нашым дысгарманічным сучасным свеце…

*"Залаты сон" — "залаты век" у аповесці В. Гігевіча — гэта стан першабытнасці. Аўтар апісвае тыя дні, калі адносіны паміж людзьмі былі простыя, пачуцці і вера — моцныя, і прырода была маці, а не матэрыялам для перапрацоўкі. Аўтар спрабуе ўзнавіць уласцівае палеалітычнаму чалавеку наіўнае ўспрыманне свету, яго захапленне Космасам і ўсім светапарадкам. У той час як наш урбанізаваны свет сцірае з зямной паверхні рэшткі лясоў, а чалавек губляе чалавечнасць (вечная тэма!), аповесць робіцца акном у неймаверную старажытнасць.*

А ў першабытным свеце ўсё гарманічна: ім кіруе добры і мудры Бог, чые вочы падобныя на кляновы ліст, які складаецца з зіхоткіх Сусветаў.

Герой аповесці ва ўяўленні сузірае Боскае дрэва, якое складаецца з галактык, разумее прыгажосць усяго існага і чуе мелодыю, якая зыходзіць "ад дрэва, ад бясконцых вачэй Таго ўсемагутнага". Трэба сказаць, што гэты матыў звышнатуральнай мелодыі сам па сабе вельмі цікавы з пункта гледжання яго існавання ў беларускай культуры. Ёсць усе падставы меркаваць, што архетып Музыкі можна вызначыць як беларускі этнакультурны архетып. У мастацкіх творах беларускіх пісьменнікаў (у прыватнасці, у антыўтопіях) архетып Музыкі злучаны па сэнсе з душой, жыццём і воляй. Так, у аповесці В. Гігевіча "Карабель" гэты этнакультурны архетып Музыкі/Песні мае асабліва важную ролю: песня маці звязана з традыцыямі, роднай мовай, роднай зямлёй, духоўнасцю, марай з сапраўднай чалавечнасцю. Можна ўспомніць і класічныя творы: "Дудка беларуская" Ф. Багушэвіча, "Сымон-музыка" Якуба Коласа, дзе музыка злучана з душой творцы, з праўдай і воляй. Архетып Музыкі/Песні — сімвалічны выраз беларускай душы. У аповесці "Страчанае шчасце" музыка — гэта песня роду і музыка космасу — напамін пра згубленую гармонію чалавека і Сусвету.

Ключавы беларускі этнакультурны архетып, злучаны з экзістэнцыяльнымі каштоўнасцямі, — Зямля. Для этнакультурных архетыпаў характэрны ўстойлівыя семантычныя сувязі: "зямля" злучаецца з "жыццём", "музыка" — з "душой" і "воляй", "душа" — з "зоркай" і "лёсам". Архетып зямлі займае адмысловае месца ў творчасці В. Гігевіча, досыць успомніць яго класічную антыўтопію "Карабель", дзе ўвесь сюжэт быў пабудаваны на вяртанні да Зямлі, а Зямля асацыявалася з эмацыйным кампанентам (марай, каханнем), культурай, традыцыяй і роднай мовай.

У аповесці "Страчанае шчасце" праводзіцца вельмі важная для аўтара думка: Зямля жывая. Важна, што гэта не метафара: яна жывая, яна можа быць жывым арганізмам, які мае розум (аўтар спасылаецца на ідэі І. Кеплера, Дж. Лаўлока і інш.). Зямля, як разумеюць героі аповесці, адчуваючы адзінства з усім існым, "усіх яна яднае і ўсіх даглядае…" Без гэтага адзінства "…цяпер нельга жыць, як нельга жыць без пачуцця роду".

Такім чынам, новая аповесць можа лічыцца творчым філасофскім маніфестам, у якім аўтар, знаходзячыся ў полі прыцягнення ўтопіі, разважае пра самае надзённае: трэба аб'ядноўвацца, трэба дапамагаць адзін аднаму, трэба будаваць ланцужок: ЧАЛАВЕК—НАРОД—ЗЯМЛЯ—СУСВЕТ.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Цяпло першацвета

Генрыху Далідовічу 1 чэрвеня гэтага года споўнілася 65 гадоў. Так і хочацца сказаць: не верыцца. Разумею, што ў дадзеным выпадку ў падобным сцвярджэнні відавочная нацяжка. Дый напісана ім так шмат, што зрабіць гэта ў маладым узросце проста немагчыма. Тым не менш — не верыцца. Здаецца, яшчэ зусім нядаўна ён з'явіўся ў ЛіМе. Не верыцца, хоць гэта адбылося трыццаць з лішнім гадоў таму, калі ў 1973 годзе ён стаў супрацоўнікам аддзела прозы часопіса "Полымя".

Калі да сустрэчы яго як пісьменніка я ведаў толькі па першым апавяданні "Ліст да Олі", змешчаным у "Маладосці", то пасля гэтага пачаў уважліва сачыць за яго творчасцю. Талент жа яго хутка сталеў і набіраўся моцы. Следам за апавяданнямі з'явіліся аповесці, пачалі выходзіць кнігі. Аднак асабліва ярка талент Г. Далідовіча раскрыўся ў буйным празаічным жанры. Раманы "Гаспадар-камень", адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа, "Пабуджаныя", "Свой дом" склалі трылогію, якая праўдзіва адлюстравала шлях беларусаў да свайго нацыянальнага ўсведамлення. Раманы гэтыя пра тое, як беларусы станавіліся (і сталі!) нацыяй.

У рамане "Кліч роднага звона" падзеі куды больш даўнія. Але гэтае заглыбленне ў сівую даўніну стала заканамерным працягам. Калі б не было згаданай трылогіі, не было б і "Клічу роднага звона". Зразумела, што пісьменніку, які, вобразна кажучы, дакрануўся да нацыянальных каранёў, захацелася сягнуць яшчэ глыбей, туды, дзе беларусы пачыналі сілкавацца жыватворнымі сокамі.

Мастакоўскай праўдзівасцю, глыбінёй асэнсавання няпростых з'яў вызначаецца раман "Заходнікі", за які пісьменнік быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

"Цяпло на першацвет" — так называлася першая кніга Генрыха Вацлававіча. Цяпер, з агледзін вялікага ягонага жыццёвага і творчага шляху, багатых мастакоўскіх набыткаў, відавочна, што гэтая назва даўно стала сімвалічнай. У тым сэнсе, што ўсё напісанае Г. Далідовічам — сапраўднае. І не толькі сапраўднае, але ў лепшых ягоных кнігах і нерушавае, як той першацвет, які з'яўляецца тады, калі абуджаецца прырода і ўсё наваколле прагне росквіту. Розніца толькі ў тым, што першацвет у прыродзе — з'ява часовая. Першацвет жа творчы — пастаянства, бо ў аснове яго вялікая жыццядайная сіла.

Гэтай сілай і прасякнуты кнігі Г. Далідовіча — пісьменніка, які мэтанакіравана і з высокай мастацкай аддачай працягвае ў нашай літаратуры класічную традыцыю, ля вытокаў якой стаялі знакамітыя празаікі пачынаючы з земляка яго, народнага песняра Якуба Коласа. Вучыцца ў Якуба Коласа — не толькі вялікі гонар, але і адказнасць. З гэтым усведамленнем і працягвае працаваць у літаратуры Г. Далідовіч — адзін з самых вядомых сучасных беларускіх пісьменнікаў.



Рагнед Малахоўскі

### Імпрэсіі

* * *
вясновая паводка
кацяня
лашчыцца да ног
сталіцы шэрай
вярбіны
намурлыкалі вясну

* * *
зразаю грыб
уздрыгвае грыбніца
агоніяй
знянацкага знішчэння
на лязе сцізорыка
тлее грыбная надзея

* * *
у сне леапарда
яна даганяе спажыву
на раўніне гарачага стэпу
і кідае крывавы кавалак
да лапаў яму

* * *
сузор'і сузіраюць
аблокі абдымаюць
дажджы
наважваюцца жыць
здзіўляецца зямля
калі ж нябёсы
перастануць
нас абараняць

* * *
люстэрка
памнажае пыл
пакуль сурвэтка
жэстам дасканалым
не пакіне
сіметрыю
выключнай чысціні

* * *
над дзіцячай пляцоўкай
прытулку
павісла суровая хмара
дзесьці сонца
чакае дзяцей
каб вярнуць
канфіскаванае дзяцінства

* * *
даўно няма ўжо
вуліцы Савецкай
з надзеяй і трывогай
у двары бязлюдным
настальгіруе
ссівелы вецер-камуніст

* * *
пажар уварваўся
у хату
закінутай вёскі
бясстрашна і бездапаможна
глухімі стрэламі
выганяе няпрошанага госця
стары шыфер

* * *
водар жывіцы
паклікаў у лазню
на каменні распаленым
кроплі шквірчаць
і знікаюць
у рэінкарнацыі
туліцца грэшнае цела
да па́ры

* * *
на падваконні кактусы
ці то жывуць
ці то паміраюць
спрабуюць укалоць
маё раўнадушша
для іх я згустак мітусні

* * *
бясконцае каханне
ветру і травы
спакусіла
цікаўную павуцінку
зведаць таямніцы
новых даляглядаў

* * *
пасля грознай
шматгалосай навальніцы
запраменіцца
нястрымнае жаданне
наблізіцца да вясёлкі
што сілкуецца сокам
магутнага дрэва

* * *
на аўтастрадзе
з хуткасцю няўлоўнай
у імгненне
паміж ударамі сэрца
размінуся
з уласным лёсам

* * *
на досвітку
у сонным парку
застывае
хаатычны рух
асляплых мятлікаў
вакол пагаслых
штучных сонцаў

* * *
самалёты
нябёсныя вектары
выпадковыя
ці запланаваныя накірункі
чэрцяць
на блакітным аркушы
раўнастаронні трохкутнік



Фота Рагнеда Малахоўскага

# Перагорнем старонкі «Маладосці»

Час ідзе — літаратура маладзее. Асабліва гэта адчуваецца на старонках часопіса "Маладосць", які ў другім паўгоддзі плануе набыць новую знешнасць, чым, канечне, спадзяецца яшчэ больш прывабіць сваіх чытачоў — даўніх сяброў і новых. Выданне дынамічна змяняецца не толькі вонкава, але і канцэптуальна. Хаця па-ранейшаму большасць аўтараў часопіса — маладыя творцы. У рубрыцы "Упершыню ў "Маладосці" ў маі і чэрвені — вершы дэбютантаў Уладзіміра Гуніча і Кірыла Сыцько. Хлопцы настолькі па-яскраваму розныя, што іх яднае хіба маладосць — тым яны і цікавыя для "Маладосці", на старонках якой — уся разнастайнасць беларускага літаратурнага працэсу. Пяты нумар запомніцца аматарам добрай паэзіі таксама і вершаванай нізкай Маргарыты Аляшкевіч — вядомага журналіста, выкладчыка Інстытута журналістыкі БДУ і крытыка. Чэрвеньская "Маладосць" адзначаная творамі гарадзенца Анатоля Брусевіча, яскравага прадстаўніка неамадэрнісцкай плыні. Усё самае лепшае з таго, што можна будзе знайсці ў бліжэйшых нумарах часопіса, — перад вамі, шаноўныя чытачы "ЛіМа".

**Віка ТРЭНАС**

### Мільёны анёлаў, мільярды імён...

**Кірыл СЫЦЬКО**

* * *
Цяжка ўставаць на дасвецці.
Ў лужынах талай вады
Хай ненароджаны вецер
Цалуе твае сляды.

Можа, паставіш мне помнік
Там, дзе пастаўлены крыж?
Бачыш, змяшалася поўня
З пылам закінутых ніш.

Топяцца зоры з дасвеццем
Ў лужыне талай вады.

**Уладзімір ГУНІЧ**

* * *
Ціхі вечар, соннае балота,
Сонца лье ружовае змярканне,
Колкіх хвой маўклівая самота
І бяроз узорнае убранне.

Ды на мхах раскінуліся росы,
І лясун дзесь ходзіць задуменны,
Распускае у бярозаў косы,
Заплятае тонкія праменні.

Ля бяроз красуюцца брусніцы,
Першых зор пачуўшы прывітанні,
Ім цяпер пад вечар ціха спіцца…
Лесавік іх знойдзе на світанні.

**Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ**

По матывах Білі Холідэй — "Detour"
Будзе ўсё, як ты хочаш:
ты скажаш трываць — я стрываю,
калі б нават нябёсы
ты мне перакладваў на плечы.
Хто памерае, спраўдзіць —
мне то будзе ношкаю лепшай,
чым сусвет без цябе,
поўны смутку ад краю да краю.
Будзе ўсё, як ты хочаш:
пакінуць ты скажаш — пакіну,
хай зямля і нябёсы
сыдуцца ў даўгім пацалунку,
а хто супраць, хай змотваюць вуды й
пакуюць клункі —
ты мой пан і сусвет,
і табе я адзінаму вінна.
Будзе ўсё, як ты хочаш,
а скажаш — не будзе нічога
з геспярыдавых яблыкаў,
хлінкіх карыятыд.
Безгаловай змяёй
з гораў курчыцца ў долы дарога,
Ныюць сцёртыя плечы
і сцёрты, пусты краявід.

*(мігрэнныя мелодыі)*

Загула галава, нібы звон,
нібы звон, апусцела,
каб званар малады
тузаў нітку й язык балбатаўся.
Мой званар – як скала,
ля ног яго звонкія хвалі
пакідаюць дарункі
марскія ды прагну ю пену.
Нарастае трызвон, нібы той,
хто жыве на званіцы,
тоўстай мухай зялёнай
заблытаўся ў зыкавы ніткі —
кожны выбрык званы забіраюць,
ваколіцам кажуць,
аж пакуль тая муха
бязвольна між іх не аціхне.
Неадчэпна гудзе галава,
мне і звон і званіца,
бяскрыдлатая бессань,
што мухі падлічвае ў носе.
Хай званар, малады і прывабны,
у галасе гэтым
не пачуе адзінага голасу, болю майго.

**Анатоль БРУСЕВІЧ**

* * *
П'ю малітву, нібы віно
Да мяжы, за якой ад Бога
Застаецца адзін вянок
І бурштынавы смак зямнога.

П'ю малітву, і горкі пах
Разліваецца па-над светам.
Усміхаецца моўчкі Вакх
Мне з-за хмараў
усмешкай светлай.

* * *
Я — рака,
Правы прыток Стыксу.
Ты — рака,
Левы прыток Леты.
Наракаць —
Значыць не знаць сэнсу:
У радках
толькі абрыс мэты.
Мы плывём.
Кожны ў сваё мора.
Мы ляцім.
Кожны ў сваё пекла.
Чалавек —
Гэта адбітак хворы
уяўлення Бога
Пра чалавека.

# Спадчына Караткевіча: захаваем разам

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

**Тыраж новага Збора твораў Уладзіміра Караткевіча залежыць ад кожнага з нас — на яго будзе арганізавана папярэдняя падпіска.**

## Што маем, чым ганарымся

Сам Уладзімір Караткевіч планаваў у сярэдзіне 1950-х гадоў пакінуць нашчадкам 78 тамоў твораў. У яго нататках застаўся накід размеркавання твораў па тамах з пазнакай: 11 гадоў 75 дзён пры катаржнай нагрузцы. З задуманага цыкла кніг пра жыццё свайго народа на працягу значнага часавага прамежку яму ўдалося стварыць даволі шмат. Ідэі, якія развіваў класік беларускай літаратуры, іх мастацкае ўвасабленне сталі тым краевугольным каменем, які смела можна класці ў падмурак нацыянальнай ідэі. Нават у наш час, калі, здаецца, цікаўнасць да чытання незваротна знікае, Караткевіча чытаюць, абмяркоўваюць, вывучаюць, ведаюць, любяць.

Апошні Збор твораў Уладзіміра Сямёнавіча выдадзены ў 1987—1991 гадах у 8 тамах, 9 кнігах (восьмы том склалі дзве кнігі). Яго тыраж складаў 60 тысяч экзэмпляраў. За мінулыя гады з'явіліся новыя даследаванні, караткевічазнаўцамі шмат што з багатай творчай спадчыны пісьменніка сабрана, выдадзена, асэнсавана. Таму аб'ектыўна склалася неабходнасць новага, найбольш поўнага Збору твораў.

Канцэпцыю новага, 25-томнага Збору твораў Уладзіміра Караткевіча распрацаваў кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта **Анатоль Верабей.** У рэдкалегію выдання павінны ўвайсці А. Бельскі, А. Верабей, П. Жаўнябовіч, В. Іўчанкаў, А. Мальдзіс, М. Мушынскі, В. Рагойша, І. Роўда, А. Русецкі, А. Сіанькевіч, Г. Шаблінская, Т. Шамякіна, В. Шніп.

Укладальнікамі выдання стануць не толькі дактары і кандыдаты навук, але і маладыя даследчыкі творчасці У. Караткевіча. Плануецца распачаць праект у 2012 годзе, выдаваць 1–3 тамы на год, а завяршыць яго ў 2020 годзе, якраз да 90-годдзя пісьменніка. Гэта будзе магчымым, калі выданне ўключаць у план сацыяльна значнай літаратуры.

## Ініцыятыва знізу, падтрымка зверху

З ініцыятывай аб вяртанні падпіскі на беларускамоўную мастацкую літаратуру, першай ластаўкай якой павінна стаць выданне Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, выступіла Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Як паведаміў яго старшыня **Алег Трусаў**, прапанова аб'явіць агульнанацыянальную падпіску была выказана доктарам філалагічных навук прафесарам Адамам Мальдзісам на пасяджэнні рады Таварыства і была ёю падтрымана. Далей звярнуліся да кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Макея аб вяртанні падпіскі на беларускамоўную мастацкую літаратуру. Міністэрства інфармацыі прапанавала наступны варыянт вырашэння клопату: "У якасці эксперыменту выдавецтвам "Мастацкая літаратура" сумесна з ААТ "Белкніга" ў бягучым годзе будзе арганізавана падпіска на Збор твораў У. Караткевіча ў 25 тамах.

Канчатковае рашэнне пра мэтазгоднасць такой формы рэалізацыі выданняў, як падпіска, будзе прынята па выніках эксперыменту".

> *"Адметнасць гэтага выдання ў тым, што да яго будуць прыкладзены кампакт-дыскі: з вершамі і песнямі Караткевіча ў яго выкананні, яго выступленнямі на радыё, тэлебачанні, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, а таксама яго здымкі з мастацкага фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Прапануецца і дыск з электронный бібліятэкай твораў класіка.*

## Помнік, які будуем

Навуковае (са змястоўным каментарыем) і адрасаванае шырокаму колу чытачоў выданне будзе грунтавацца на жанрава-храналагічным прынцыпе: першыя два тамы — паэтычныя творы, з трэцяга па дзясяты — празаічныя, адзінаццаты — драматычныя, дванаццаты–трынаццаты — публіцыстычныя творы, эсэ, літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв'ю, выступленні. У наступныя тамы новага Збору твораў увойдуць таксама пераклады і аўтапераклады пісьменніка, сцэнарыі і лібрэта, лісты, малюнкі, дзённікі і запісныя кніжкі, дарчыя надпісы. Апошні том выдання будзе ўтрымліваць дапаўненні да папярэдніх тамоў, летапіс жыцця і творчасці, алфавітны даведнік, імянны паказальнік, а таксама бібліяграфію крытычных і літаратуразнаўчых прац, прысвечаных асобе і творчасці Караткевіча.

Як паведаміў **Анатоль Верабей**, пад навуковым кіраўніцтвам плануецца ажыццяўленне падрыхтоўкі Збору твораў, адметнасць гэтага выдання ў тым, што да яго будуць прыкладзены кампакт-дыскі: з вершамі і песнямі Караткевіча ў яго выкананні, яго выступленнямі на радыё, тэлебачанні, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, а таксама яго здымкі з мастацкага фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Прапануецца і дыск з электронный бібліятэкай твораў класіка.

Анатоль Леанідавіч адзначыў: "Гэта выданне стане значнай падзеяй у грамадскім і культурным жыцці Беларусі. Да таго ж, яно павінна быць рэнтабельным — дзякуючы падпісцы. Пытанне аб выданні было абмеркавана ў Міністэрстве адукацыі, Міністэрстве культуры, а таксама ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія падтрымалі ідэю і могуць заказаць каля 5 тысяч экзэмпляраў".

## Чытацкае галасаванне

У кожнага чалавека, які цікавіцца творчасцю і асобай Уладзіміра Караткевіча, ёсць магчымасць паўплываць на з'яўленне літаратурнага помніка славутаму аўтару і папоўніць асабістую бібліятэку ўнікальнымі выданнямі. Магчыма, тыраж "даследчыцкіх" тамоў з ліставаннем, выступленнямі, артыкуламі будзе меншы за тыраж тамоў паэзіі, прозы, драматургіі. Галоўнае для выдаўцоў, каб кожная кніга выдання была запатрабавана. Калі эксперымент пройдзе паспяхова і адновіцца рух на "зялёнай вуліцы" падпіскі, нараканні на тое, што палічкі кнігарань заняты нікому не патрэбнай літаратурай, здымуцца самі сабою. Чытач атрымае магчымасць і надалей выбіраць творы вартых увагі аўтараў. Пачынаем?



**Алена ПАЎЛАВА, начальнік упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь:**

*— Канчатковы лёс выдання будзе вырашаны ў снежні. Работа па фарміраванні планаў выпуску сацыяльна значнай літаратуры на наступны год пачынаецца ў верасні. Думаю, што выдавецтва "Мастацкая літаратура" будзе прапаноўваць Збор у гэты спіс. Улічваючы зацікаўленасць Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі краіны ў выданні твораў Караткевіча, а гэта значыць гарантаваныя заказы падпарадкаваных ім бібліятэк, наша ўпраўленне будзе прапаноўваць выдавецкі праект на разгляд Экспертнага савета па фарміраванні плана выпуску сацыяльна значнай літаратуры. Што тычыцца эксперымента па арганізацыі падпіскі, то, на мой погляд, сёння — пры няўстойлівых цэнах на паперу і іншыя матэрыялы — вельмі цяжка сфарміраваць фіксаваны кошт на кожны том выдання. Асабліва на такія доўгатэрміновыя праекты, якім з'яўляецца 25-томны Збор твораў Караткевіча, разлічаны на дзесяцігоддзе. Але гэтае пытанне ўжо прапрацоўваецца выдавецтвам.*



**Алег ТРУСАЎ, старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны":**

*— Я вельмі ўдзячны газеце "ЛіМ" за цікавасць да нашага праекта. Хацелася б даведацца ад арганізатараў пра ўмовы падпіскі, час, калі яна пачнецца. Думаю, што пра яе абвесцяць усе рэспубліканскія выданні. Не сумняваюся, што аб'яўленая акцыя знойдзе падтрымку.*



**Віктар ШНІП, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура":**

*— Творы Уладзіміра Караткевіча для нашага выдавецтва, як і для кожнага беларуса, — святое. Гэта наша класіка, наша гісторыя. З выдадзеных твораў Уладзіміра Караткевіча 95 працэнтаў убачылі свет у "Мастацкай літаратуры". І тое, што нам даручана працаваць над 25-томным Зборам твораў пісьменніка, — вялікі гонар. Шэсць гадоў таму, да юбілею класіка, па прапанове Галіны Шаблінскай у серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" выйшла кніга пра Караткевіча — і разышлася даволі хутка. Амаль кожны год выдаём дзве-тры яго кнігі. Падпіска — вельмі добрая задума, але яе механізмы яшчэ прапрацоўваюцца зацікаўленымі бакамі: міністэрствамі культуры, інфармацыі і адукацыі. Ведаеце, тое, што было разбурана, не вельмі проста аднавіць. Як толькі будзе вызначаны дакладны тыраж, мы пачнём выданне.*

# Знакі духоўнай велічы

(Заканчэнне. Пачатак на стар.1)

Пяты год запар у кантэкст нясвіжскага форуму прыгожых і сур'ёзных мастацтваў уключалася музычная асамблея — адмысловая імпрэза, што нясе на сабе функцыі лекцыі-канцэрта (зноў жа, з навуковым і асветніцкім акцэнтамі) ды майстар-класа. Сёлетняя імпрэза, якую курыраваў і вёў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, доктар навук, прафесар Уладзімір Скараходаў, прысвячалася майстэрству ансамблевай ігры. Практычная частка асамблеі складалася з выступленняў камерных калектываў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, у ліку якіх і Ансамбль флейтыстаў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Скараходава.

Такое паразуменне гісторыі, тэорыі ды практыкі музычнага мастацтва праз узоры жывой выканальніцкай творчасці не толькі выклікае захапленне, дае эстэтычную насалоду, але нават спараджае нейкі дадатны сугестыўны эфект. Дайце веры, гэта не пустыя словы. А калі ўсё ж такі сумняваецеся ў іх слушнасці, паспрабуйце ўявіць, як незвычайна гучаць у выдатнай акустыцы ратушнай залы, дзе праходзяць фестывальныя асамблеі, — як чарадзейна гучаць тут кларнет, габой, фагот, флейта, сагрэтыя цеплынёй чалавечага дыхання, напоўненыя энергіяй творчага гарэння музыкантаў, атуленыя таямнічым водгаласам старажытных муроў! Дарэчы, тамсама, у сценах ратушы, адбыўся канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў, лаўрэата спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва, Уладзіміра Солтана. Малады кларнетыст грае ў Ансамблі салістаў на драўляных духавых інструментах (мастацкі кіраўнік Іван Брычыкаў). Яго майстэрства, заўважная фарба на агульнай палітры гэтага ўнікальнага актэта, ярка раскрылася "буйным планам" — у сольным рэпертуары.

Цэнтральнай падзеяй трохдзённага спаткання муз была прэм'ера, якая прадставіла два арыгінальныя музычныя праекты.

Канцэрт-пралог "Дзень народзін" уявіў сабой агучаную камернымі калектывамі аркестра анталогію творчасці кампазітараў XVIII — XX стст., больш ці менш цесна звязаных з Беларуссю, чые юбілеі адзначаюцца сёлета. Сярод іх і незаслужана забытыя нацыянальныя класікі савецкага часу Дзмітрый Лукас, Рыгор Пукст, Аляксей Туранкоў, чые імёны па ініцыятыве маэстра Міхаіла Фінберга вяртаюцца ў сённяшні культурны кантэкст. І вядомыя прадстаўнікі музычнага рамантызму Антон Абрамовіч, Міхаіл Эльскі, Мечыслаў Карловіч. І спакрэўленыя з нясвіжскай сядзібай муз XVIII стагоддзя Мацей Радзівіл, таленавіты прадстаўнік старажытнага тутэйшага роду, ды Ян Давід Голанд, паспяховы германскі кампазітар, які прыняў прапанову папрацаваць пры двары нясвіжскіх магнатаў і назаўжды звязаў свой лёс з тутэйшым краем. У сааўтарстве беларускага магната як лібрэтыста і немецкага маэстра тут, на нясвіжскай зямлі, нарадзіўся (быў напісаны і пастаўлены) натхнёны рэаліямі мясцовага сялянскага жыцця камедыйны музычна-сцэнічны твор "Агатка, або Прыезд пана", які прынята лічыць першай беларускай операй.

Яшчэ адна праграма галоўнага фестывальнага вечара ў Нясвіжскім цэнтры культуры і адпачынку складалася з размаітых твораў, аб'яднаных назвай "Паравіны года". Што за назвай? Шыкоўны парад прэм'ер!

У маляўнічым жывым гучанні раскрываліся па-тэатральнаму вобразныя фрагменты з папулярных класічных "сезонных" цыклаў Антоніа Вівальдзі ды Пятра Чайкоўскага; з каскада капрызлівых інтанацый, вострых штрыхоў і пікантных дысанансаў, "рваных" мелодый і ўзрушальных рытмаў паўставаў кароль інфернальна-пачуццёвага аргенцінскага танга Астар П'яцола. Музыка, якая ніколі не надакучыць, — у "смачных" пераладжэннях для Камернага аркестра... За дырыжорскім пультам, як заўсёды, шчыраваў заслужаны артыст Беларусі Валерый Сарока. Здавалася, яго разам з музыкантамі падхоплівала хваля небывалага натхнення. Дзіва што: і натхненне, і захапленне, і хваляванне былі сапраўды незвычайныя, бо парад прэм'ер праходзіў і як парад салістаў. Гэты камерны калектыў, які працуе ў складзе знакамітага аркестра, багаты на індывідуальнасці. Колькі тут высокатэхнічных і яркіх артыстаў-струннікаў, здатных на годным прафесійным узроўні, артыстычна і з адчуваннем стылю сыграць сола! Скрыпачкі Алена Навуменка, Святлана Іванюковіч, Алена Драко, Антаніна Казлова, віяланчэліст Міхаіл Лаўрыновіч... Цяжка пералічыць усіх адметных музыкантаў заслужанага, цяпер ужо і акадэмічнага, вялікага калектыву, дзейнасць якіх адзначана сур'ёзнымі творчымі дасягненнямі, конкурснымі перамогамі, заахвочана ўзнагародамі і ганаровымі званнямі.

Пра нашу некаранаваную сталіцу, якая зберагае гістарычныя знакі сваёй духоўнай велічы і прымнажае іх, адраджаючы страчаныя традыцыі, бо менавіта адсюль пачынаўся беларускі прафесійны тэатр, і музыка гучала тут заўсёды. Пра тое, што фестываль "Музы Нясвіжа" арганічна ўкараніўся ў мясцовых традыцыях, стаўшы прытым знакавай падзеяй не толькі для раёна, але і для сталічнай вобласці, і для ўсёй краіны, і гэта сведчыць пра пераемнасць у працэсах культуры і творчасці. Пра сённяшні дзень горада, праслаўленага калісьці на ўвесь свет сваімі магутнымі гаспадарамі, лепшымі прадстаўнікамі роду Радзівілаў. Пра перспектывы развіцця гэтага горада-з'явы ў цэнтры Еўропы, у цяперашнім статусе гісторыка-культурнага музея-запаведніка, прылічанага ЮНЕСКА да каштоўнасцей сусветнай культурнай спадчыны...

Пра ўсё гэта вялася гаворка падчас фестывальнай прэс-канферэнцыі.

Старшыня Нясвіжскага райвыканкама Іван Крупко ды першы намеснік старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Віктар Шчэцька высока ацанілі значэнне мастацка-асветніцкага фестывалю, які праводзіцца па ініцыятыве Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. "Музы Нясвіжа" — гэта і гісторыя, і традыцыя, дзякуючы якой у горадзе ўзгадавалася новае пакаленне адукаваных, культурных слухачоў, прыхільнікаў сапраўдных духоўна-эстэтычных каштоўнасцей. Такому фестывалю наканавана жыць і развівацца, і ў абноўленым замку Радзівілаў абавязкова будзе знойдзена месца і для правядзення яго праграм. Сёння ў палацы адкрыты для наведвальнікаў 13 пляцовак, на якіх размяшчаюцца пэўныя экспазіцыі. Да ліпеня плануецца ў асноўным завяршыць рэстаўрацыйныя работы, закончыць будаўніцтва моста. Увод замка для наведвання запланаваны на снежань гэтага года. Радзівілаўскі замак набывае ўсё большую папулярнасць у гасцей. Калі ў 2008 годзе Нясвіж наведала 92 тысячы арганізаваных турыстаў, дык у 2009 годзе гэтая лічба павялічылася да 120, а паказчык 2010 года наблізіўся да 190 тысяч.

На думку Віктара Шчэцькі, эканоміка павінна ў хуткім часе адчуць аддачу ад Нясвіжа. З гэтым рэгіёнам звязаныя, бадай, самыя лепшыя ў краіне сельскагаспадарчыя паказчыкі. Сам горад асацыіруецца з асяродкам культуры, мастацтва. Хуткімі тэмпамі вядзецца тут будаўніцтва гасцініц, пашыраецца інфраструктура, неабходная для развіцця турызму. Але многае залежыць і ад таго, на якія каштоўнасці будуць арыентавацца людзі. Чамусьці ў нас склаўся стэрэатып эталоннага адпачынку ў Егіпце. Але ж там, па вялікім рахунку, няма багатай, вартай увагі і захаплення, прыроды: салёная вада ды горы. Затое колькі сапраўды дзівосных мясцін ёсць у Беларусі! Трэба выхоўваць людзей у цікавасці да свайго, тым болей, што ў нашай краіне ёсць што паглядзець, на што падзівіцца.

Дарэчы, замак Радзівілаў пачынае ўжо сёння прывабліваць нашых суайчыннікаў сваімі музычнымі праектамі. У гэтым месяцы тут мае адбыцца гала-канцэрт майстроў опернага мастацтва. Арганізатары прагназуюць аншлаг.

А Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга пачынае ўжо рыхтаваць свой чарговы канцэптуальны фестываль: "Музы Нясвіжа" з аптымізмам глядзяць у перспектыву і абяцаюць мастацкія сюрпрызы сваім прыхільнікам...





*«У межах свята "Музы Нясвіжа" адбыліся дзве мастацкія выстаўкі. Новыя работы сваіх выхаванцаў прывезла на фестываль кіраўнік дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва "Вясёлка" Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Святлана Купрыянава. А мінскі жывапісец Уладзімір Клімушка прадставіў серыю работ "Трансскрыпцыя". Заключным акордам трохдзённай імпрэзы прагучаў гала-канцэрт у Нясвіжскім цэнтры культуры і адпачынку "Песня і джаз", які прайшоў пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга.*



***На здымках:** старшыня Нясвіжскага райвыканкама Іван Крупко, народны артыст Беларусі прафесар Міхаіл Фінберг і першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Віктар Шчэцька падчас гутаркі з журналістамі; Ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах ля гарадской ратушы; музыканты Камернага аркестра.*

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Сёння ў Паставах пачынаецца Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік", заснаваны Міністэрствам культуры Беларусі, упраўленнем культуры Віцебскага аблвыканкама і Пастаўскім райвыканкамам. Гэтае каларытнае і вельмі папулярнае беларускае свята, ужо 14-е па ліку, працягнецца тры дні. У праграме — традыцыйны конкурс выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?", тэатралізаваныя, гульнявыя, забаўляльныя імпрэзы, выстаўкі народных мастацкіх рамёстваў і промыслаў у каларытным "Горадзе майстроў", правядзенне заняткаў творчай лабараторыі ды іншыя захапляльныя мерапрыемствы. А на завяршэнне плануецца гала-канцэрт у амфітэатры маляўнічага пастаўскага парку.

Прэм'ера спектакля "Аіда" адбылася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Знакаміты твор Джузепе Вердзі быў увасоблены на беларускай сцэне ў 1953 годзе легендарнай спявачкай і рэжысёрам Ларысай Александроўскай, дырыжорам Львом Любімавым і мастаком Сяргеем Нікалаевым. Любімая опера некалькіх пакаленняў выканаўцаў і слухачоў да нядаўняга часу знаходзілася ў рэпертуарным актыве нашага Вялікага тэатра. Аднак яе старая пастаноўка вымагала абнаўлення. Гэтую маштабную працу ажыццявілі дырыжор-пастаноўшчык Вячаслаў Воліч, рэжысёр Міхаіл Панджавідзе, хормайстар Ніна Ламановіч. Дэкарацыі і касцюмы створаныя паводле эскізаў нашага незабыўнага майстра сцэнаграфіі Яўгена Чамадурава. Над афармленнем "Аіды" ён працаваў у 1953 годзе — для пастаноўкі ў Бухарэсце, потым гэты спектакль з дэкарацыямі і касцюмамі, выкананымі Чамадуравым, быў паўтораны ў Чалябінску і ў Казані. А сёння эскізы выдатнага тэатральнага мастака ўвасобіліся ў беларускім спектаклі.

Група акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага з поспехам выступіла на Пятым усерасійскім тэатральным фестывалі імя славутага рускага трагіка Мікалая Рыбакова, 200-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета. На фестываль, які ладзіўся ў Тамбове, горкаўцаў запрасілі ў якасці ганаровых гасцей са спектаклем "Пане Каханку" (п'еса Андрэя Курэйчыка, пастаноўка Сяргея Кавальчыка). Як паведамілі нам з літаратурна-драматычнай часткі тэатра, беларускі спектакль прайшоў там "на ўра", прычым асаблівай сімпатыі расіян спадобіўся выканаўца галоўнай ролі — народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі. Падчас фестывалю нават адбылася яго творчая сустрэча з гледачом. А маладыя артысты-горкаўцы перад ад'ездам у Мінск прыемна здзівілі ўдзельнікаў і гасцей тамбоўскага фэсту, наладзіўшы вясёлы капуснік.

Юбілею народнай артысткі БССР, знакамітай балерыны і педагога Людмілы Бржазоўскай прысвячаецца паказ спектакля Валянціна Елізар'ева на музыку Андрэя Пятрова "Стварэнне свету", які адбудзецца ў НАВТ оперы і балета 10 чэрвеня. Чакаецца дэбют новай выканаўцы партыі Евы — маладой салісткі балета Людмілы Хітровай, якую да гэтай ролі рыхтуе Людміла Бржазоўская.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Сяргея Сулая

**Уменне радавацца жыццю... Для кагосьці гэта дар прыроды. Для кагосьці — мастацтва, навучыцца якому не так і проста. Што б там ні было, а ў радасным светаадчуванні, у простай радасці кожнага звычайнага дня заключаецца вялікая мудрасць зямнога жыцця, якой нам гэтак часта бракуе. Між тым, крыніцу простай зямной радасці знайсці зусім няцяжка: ёю можа быць і маляўнічы куток прыроды, і лагодная мелодыя, і вясёлы настрой сустрэчнага мінака, і дасціпная гісторыя з удзелам шчаслівых закаханых — такая, як музычная камедыя "Аршын мал алан". У гэтым сезоне яна ўпрыгожыла рэпертуар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.**



# Варыяцыі на тэму Радасці

**Культавы фільм** з удзелам куміра нашых бацькоў, вялікага азербайджанскага тэнара, уладальніка непаўторнага срэбразвоннага тэмбру — Рашыда Бейбутава, нібы ажыў у далёкіх сховах памяці, калі тэатральная зала напоўнілася сінкапіраванай пульсацыяй барабаннага пошчаку, экзатычнымі ўсходнімі інтанацыямі аркестравага дыхання, пранікнёнымі і трапяткімі спевамі салістаў і калі каларытным воклічам прагучала магічнае: "Аа-ршы-ы-ын ма-а-ала-а-а-а-а-ла-а-а-а-ан!" Амаль пабейбутаўску. І радасна зрабілася ўжо ад таго, што прасякнуты цудоўнай музыкай камедыйны сюжэт падзабытай кінастужкі вярнуўся да сваіх вытокаў — атрымаў новае ўвасабленне менавіта на сцэне. Прытым для нашай публікі гэтая прэм'ера прынесла радасць абсалютнага адкрыцця: сусветна знакаміты твор "Аршын мал алан" у Беларусі ніколі раней не ставіўся, а яго экранізацыю давялося пабачыць не ўсім.

Мінскі спектакль, спраўджаны як значны і паспяховы сумесны культурны праект Азербайджана ды Беларусі, азнаменаваў 125-годдзе з дня нараджэння кампазітара Узеіра Гаджыбекава.

**Выбітны талент,** якім быў надзелены гэты класік азербайджанскага нацыянальнага музычнага мастацтва, здатны ствáрыць гонар любому народу. Педагог, складальнік першага на азербайджанскай мове падручніка па арыфметыцы для дзяцей, перакладчык на родную мову аповесці М. Гогаля "Шынель", арганізатар музычных гурткоў, аўтар газетных артыкулаў і фельетонаў... Яго самы папулярны опус, наконт жанравага вызначэння якога ў спецыялістаў няма пэўнасці (называюць "Аршын мал алан" ці аперэтай, ці музычнай камедыяй, ці камічнай операй), напісаны У. Гаджыбекавым паводле ўласнага лібрэта ў 1913 годзе, падчас навучання ў Пецярбургскай кансерваторыі. Праз пяць гадоў у Баку адбылася прэм'ера. Духмянай сонечнай кветцы, узгадаванай на жыватворнай пershароднасці фальклору паводле класічных еўрапейскіх законаў музычнай творчасці, была наканавана неўміручасць: з таго часу твор перакладаўся на больш як 75 моў і ставіўся на розных кантынентах, у 187 тэатрах 76 краін. Летам 1925 года, напрыклад, "Аршын мал алан" паставілі ў Парыжы, у 2007-м — на музычнай сцэне Вены...

Палякаў, кітайцаў, грузінаў, амерыканцаў, расіян, балгараў неаднойчы прываблівала кранальная і павучальная жыццёвая гісторыя, пакладзеная ў аснову лібрэта, — дасціпны "рэцэпт шчаслівага шлюбу" ва ўмовах колішняга руціннага сямейнага ўкладу на Усходзе, пры якім нават сталая кабета, тым болей дзяўчына, была асобай бяспраўнай, пазбаўленай магчымасці адкрыта выказваць пачуцці, выбіраць для сябе спадарожніка жыцця, а жаніху забаранялася бачыць нарачоную да вяселля. "Аршын мал алан!" — вокліч аршына малчы, вулічнага гандляра тканінамі, стаў і своеасаблівым паролем, які дапамог маладому купцу Аскеру знайсці сваю каханую, і той пасткай, што ледзь не спрацавала супраць яго ж самога...

**У нас, як вядома,** спектакль ідзе на рускай мове, у пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў Азербайджанскай Рэспублікі, рэжысёра Хафіза Гуліева пры ўдзеле балетмайстра-пастаноўшчыка, народнай артысткі Азербайджана Медзіны Аліевай, іх беларускіх калег — дырыжора Марыны Траццяковай, рэжысёра Ганны Маторнай, балетмайстра Алены Дзмітрыевай-Лаўрыновіч, хормайстра Святланы Пятровай, сцэнографа Любові Сідзельнікавай (ідэя мастацкага вырашэння належыць Юсіфу Такеру, Турцыя).

Складана было і артыстам аркестра, хору, балета, і салістам, і творчаму кіраўніцтву нашага тэатра ўваходзіць у нязвыклую для еўрапейцаў эстэтыку твора, спасцігаць побытавы этыкет усходняга народа, знаходзіць візуальны адпаведнік загадкавай ментальнасці, псіхалогіі, тэмпераменту персанажаў. Праўда, выканаўцы "камплексавалі" перад новым матэрыялам нядоўга. Яны проста ўлюбіліся ў прыгожую музыку, у яе сонечную пачуццёвасць, інтанацыйную свежасць, імпульсіўную рытміку — і пэўная насцярожанасць у працы змянілася радасцю творчых пошукаў. А вынік гэтых пошукаў радуе цяпер і стваральнікаў пастаноўкі, і публіку: спектакль атрымаўся цэласны і дынамічны, "без швоў". Галоўны яго набытак — рэдкасны, арганічны ансамбль. Пры розных складах выканаўцаў падчас дзеі адразу ж узнікае суладдзе аркестра і салістаў, танца і дэкламацыі. Шчодры пасыл вытанчанай лірыкі, сакавітага гумару, зіхоткай дабрыні ды радасці падхоплівае зала. Да гонару артыстаў, яны пазбягаюць знарочыстага "каўказскага акцэнту" ў сцэнічнай гаворцы і рэчытатывах, ашчадліва і тактоўна карыстаюцца моўнымі сродкамі для характарыстыкі сваіх персанажаў, больш увагі надаючы жэстам, пластыцы руху, падтанцоўкам.



**Шчырасцю сцэнічнага існавання артыстаў,** ансамблевасцю іх ігры ўразіў самы першы паказ прэм'еры, у якім удзельнічаў госць з Азербайджана — выканаўца ролі Аскера, уладальнік яркага тэнара і чулы артыст Фарыд Аліеў. Ён цудоўна паразумеўся з беларускімі партнёрамі, кожны з якіх раскрыўся як майстар: у сольным эпізодзе, у дуэце, у віртуознай ансамблевай мізансцэне. Захапляў тонкі малюнак ролі хітравана Велі, слугі Аскера, увасобленага Ігарам Бычковым; парадыйную "лютасць" хатняга тырана Султанбека бліскуча выяўляў Аляксандр Асіпец; глыбокае адчуванне прыроды камічнага раскрывалася праз каларытную ігру Вікторыі Жбанковай-Стрыганковай у ролі служанкі Тэлі; а якой спраўнай, кемлівай ды маладжавай удоўкай падалася Джахан, "цётачка на выданні" — гераіня Наталлі Гайды!..

Адзін з нядаўніх спектакляў прайшоў пад кіраўніцтвам дырыжора Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Эйюба Куліева, які высока ацаніў прафесійны ўзровень музыкантаў сімфанічнага аркестра тэатра і вакалістаў. Іх творчая самааддача зноў парадавала гледачоў. А душэўная шчодрасць, дружалюбнасць і ўзаемадапамога, прыгажосць і глыбіня пачуццяў, дабрабыт у доме і сямейнае шчасце, простая радасць далёка не бясхмарнага жыцця, усюдысны выратавальны гумар — канстанта, закладзеная ў музычнай камедыі "Аршын мал алан", — робіць гэты спектакль заўсёды прыцягальным для публікі.

***На здымках: сцэны са спектакля "Аршын мал алан".***

Віктар ЗАЯЦ

# Праўдзівы вобраз свету

**Польскі мастак Пётр Яргуш нарадзіўся ў 1960 годзе ў Кракаве. Вучыўся на факультэце жывапісу Акадэміі выяўленчага мастацтва (АВМ) у Кракаве ў майстэрнях прафесара Станіслава Радзіньскага і прафесара Уладзімежа Кунца. Працягваў вучобу на факультэце графікі АВМ у майстэрні прафесара Станіслава Вэймана, скончыў таксама педагагічны курс Акадэміі выяўленчага мастацтва. Неаднаразова быў стыпендыятам Міністэрства культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча.**

Як паведамілі з Польскага інстытута ў Мінску, адбылося 60 індывідуальных выстаў Пятра Яргуша, таксама ён браў удзел у больш як 100 групавых экспазіцыях у Польшчы і за мяжой. У апошнія гады ён паказвае свае работы, расклееныя на слупах для аб'яў, у прасторы гарадоў. Менавіта такім чынам у Кракаве быў рэалізаваны праект "Польскія святы", а цяпер рыхтуецца праект "Месяцы".

Польскі інстытут у Мінску і спрычыненыя арганізатары запрашаюць усіх жадаючых на адкрыццё выставак жывапісу Пятра Яргуша "Viatoris глядзіць на зоркі", якія адбудуцца 7 чэрвеня ў Мастацкай галерэі беларускага партала tut.by, а на наступны дзень — у Гісторыка-культурным музеі-запаведніку "Заслаўе".

Viatoris у перакладзе з лацінскай мовы азначае "падарожнік". Герой карцін вельмі выразны, адрасат без цяжкасцей распазнае ў ім сябе і атаясамліваецца з ім. Ён ідзе альбо сядзіць. Заваёўнік, уцякач, а часцей — мінак. Але ёсць таксама яго хлеб, дрэва, камень. Звычайная карціна, аднак яна аднасіцца да міфаў, у якіх мы не знойдзем ні простых рашэнняў, ні адных толькі шчаслівых завяршэнняў.

Пётр Яргуш зазначае, што паміж гэтымі ўяўленнямі чалавека расцягнутая яго неабходнасць апавядання і малявання таго, што з'яўляецца неапавядальным. Калі ён малюе, ён расказвае. Калі ён расказвае, ён малюе неабходнасць вобраза, прысвечанага чалавеку, які праходзіць міма і які недаўгавечны. Спакуса. Затрымацца, спыніцца, заміраючы ў нерухомасці, прыкінуцца бессмяротным. Вечнасць. Адпачыць, стаць следам, карцінай, пыркай. Пакінуць след і выправіцца далей. Некалькі разоў у гісторыі пра качэўнікаў напісана: ніхто не ведае, адкуль яны прыйшлі і куды пайшлі. Гэта дарога нас стварае. Тое, куды мы ідзем. Мы не з'яўляемся пылам. Мы — дарога. І карціна як след. Карціна як знак, закляцце, паказальнік дарог. Як крыж, які падрастаючы сын атрымлівае ад свайго бацькі. Як талісман у дарогу, знак чатырох бакоў свету і прадказанне будучай сустрэчы.

На пытанне, навошта ён часта расклейвае свае карціны на вуліцы, на вулічных слупах для аб'яў, Пётр Яргуш адказвае, што найбольш сузіральныя карціны мастакі малявалі, слухаючы на ярмарцы віск пеўняў, якіх рэзалі. У якасці Боскіх Маці ім пазіравалі служанкі, а святарамі былі касцельныя жабракі. Яны таксама былі і першымі, хто бачыў гэтыя карціны. Гледачамі, сведкамі сваёй трансфармацыі, перамен. Карціна з'яўляецца рэальнасцю, звыкласцю, штодзённасцю. І прадметам, інструментам і духоўным бытам. Пошукі карцінай — гэта адначасова патрэба разумення і патрэба сустрэчы. Намаляваная карціна нясе важную дакладнасць. Дае азначэнне таму, чаму нельга даць азначэння.

*"Чалавек праміне, карціна праміне, а аповед… застаецца,* — працягвае Пётр Яргуш. — *Я прывёз у Мінск аповесць. А аповесць вымагае Тваіх вушэй, як карціна вымагае Тваіх вачэй… Я прывёз і мой смутак па аповесці, і сваю рэзкасць, і нярэзкасць бачання. Усё навокал змяняецца. Наша ўспрыманне. Мы з'яўляемся зменнай фокуснай адлегласцю, яна з'яўляецца часткай нашай Душы. Здольнасцю адрозніваць і распазнаваць.*

*Мэтай вандроўкі майго Viatoris'а з'яўляецца не пошук, што наводзіла б на думку пошуку нечага новага, а знаходжанне свайго Дому. З яго сапраўднасцю, з яго сферай sacrum і profanum, з жанчынай і мужчынам, з дзіцём, з месцам ля стала і любімымі жывёламі. З краявідам і пахам. З усім важным і няважным. Гэта — асноўнае, раўназначнае, элементарнае для кожнага чалавека.*

*Я вяртаюся некалькі дзён таму ў Польшчу праз чатыры дзяржавы, гляджу, а свет усюды такі самы. Такія самыя вёскі, такія самыя мужчыны ў барах з гарэлкай на цыраце, маці з дзіцячымі вазкамі ля дарогі, сабакі ля будак і машыны ля пад'ездаў.*

*Viatoris, які шукае дом, — гэта сімвалічная гісторыя чалавецтва, што пачалася з моманту выгнання Адама і Евы з раю. Тады чалавек спазнаў боль і смерць. Гэта значыць, выгнанне як існуючы стан, амаль перманентны. Досвед пакаленняў маіх продкаў. Паўстанні, рэвалюцыі, войны. Іх таварышам быў голад і страх. Іх таварышам была дзіцячая лялька і некалькі дробязей, забраных з дому ў апошні момант.*

*Беларусь. Я люблю яе далікатную прыгажосць. Яна ёсць і ў маіх генах таксама, у крыві. Гэта важная для мяне нагода сустрэчы і быцця. Мінск і Заслаўе. Бабулька з царквы ў Заслаўі лячыла мне нагу. Шчыра. Я хачу яе яшчэ раз сустрэць. Я хачу паказаць тут свае карціны, што, на шчасце, вельмі хутка спраўдзіцца".*

# Творчы патэнцыял «раёнкі»

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
фота Андрэя Памецькі

**На працягу апошніх гадоў “Астравецкая праўда”, якая нядаўна годна адзначыла свой 70-гадовы юбілей, нязменна лідзіруе ў Гродзенскай вобласці па насычанасці на тысячу жыхароў, па краіне гэты паказчык таксама адзін з самых высокіх. Гэта само не прыходзіць. Якія вызначальныя накірункі выбрала рэдакцыя на шляху да свайго чытача? Якое месца адводзіцца мясцоваму друку ў працэсе развіцця сродкаў камунікацыі? На гэтыя і іншыя пытанні “ЛіМу” адказвае рэдактар “раёнкі” член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна РЫБІК.**



— Пра што б мы ні гаварылі са сваім чытачом — пра гісторыю, сучаснасць, абмяркоўваючы надзённыя праблемы ці маральныя аспекты, стараемся быць шчырымі. Калі здараюцца памылкі ці недакладнасці, не лічым ганебным папрасіць прабачэння. Не дапускаем паблажлівых, “звысоку”, адносін да свайго чытача. Кожнага з іх мы лічым сваім сябрам. І нас радуе, што і чытачы да нас адносяцца ў большасці сваёй гэтак жа: шчыра любяць і паважаюць сваю раённую газету.

Да кожнага звароту, да кожнай просьбы мы адносімся з нязменнай увагай і павагай. І не таму, што гэтага патрабуюць адпаведныя заканадаўчыя акты, а таму, што гэта аснова нашага, як сёння модна гаварыць, маркетынгу; на гэтым трымаецца рост нашага тыражу.

**— Як вядома, поспех любой справы ў значнай ступені залежыць не толькі ад правільна акрэсленых намераў, але не ў меншай ступені — ад якасці выканання. Тым болей гэта надзённае там, дзе размова ідзе пра творчыя калектывы. Якім чынам рэдактару з высокім творчым патэнцыялам (вы часта друкуецеся ў рэспубліканскім друку, перамагаеце ў конкурсах) удаецца стварыць аркестр, гэта значыць дастойна вырашыць кадравае пытанне?**

— На жаль, кадравае пытанне па-ранейшаму застаецца актуальным для раённых газет — нягледзячы на тое, што Інстытут журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і адпаведныя факультэты абласных універсітэтаў выпускаюць спецыялістаў ужо, здаецца, нават больш чым дастаткова. Але колькасць не заўсёды азначае якасць, да таго ж самыя таленавітыя з іх, як правіла, застаюцца ў сталіцы.

Мы пры падборы кадраў арыентуемся на свае, “дамарошчаныя”: шукаем таленавітую школьную моладзь ці больш сталых людзей, прыглядваемся, росцім, падтрымліваем. А затым накіроўваем вучыцца ці па мэтавым накіраванні, ці на курсы перападрыхтоўкі, ці бяром на працу і адпраўляем на завочнае аддзяленне — для раённых газет, на мой погляд, гэта самы аптымальны варыянт. А яшчэ часта “прыглядваем” здольных да творчасці людзей у іншых сферах дзейнасці. Потым яны становяцца нашымі супрацоўнікамі. Напрыклад, у свой час узялі на працу агранома, дырэктара і намесніка дырэктара школы, некалькіх настаўнікаў — і дай Бог усім прафесійным журналістам пісаць так, як яны.

Увогуле лічу, што ў сэнсе кадраў нашай газеце пашанцавала. Высокі творчы патэнцыял, як вы кажаце, у большасці членаў калектыву. Дастаткова сказаць, што нашы журналісты Ганна Чакур, Эдуард Свірыд, Аляксандр Сянюць у розныя гады станавіліся пераможцамі і прызёрамі штогадовага абласнога творчага конкурсу. Таіса Сямёнава — лаўрэат прэміі Гродзенскага абласнога выканкама імя А. І. Дубко за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва.

А моладзь, якая не так даўно прыйшла ў рэдакцыю, — Марына Мацкевіч, Алена Ярашэвіч, Вольга Шоўкун, Андрэй Памецька — вучыцца ў старэйшых, цягнецца за майстрамі — і паказвае вельмі добрыя вынікі. Так што, я думаю, і перамоцы, і лаўрэаты розных конкурсаў у нашым калектыве яшчэ будуць.

**— Ніна Аляксееўна, якое месца на старонках раённай газеты адводзіцца літаратурным творам, краязнаўчай тэматыцы?**

— Сёлета “Астравецкая праўда” атрымала “Залатую Ліцеру” менавіта за матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі. Гэта сведчыць не толькі пра тое, што гэтая тэматыка займае значнае месца на старонках газеты, але і пра тое, што падаюцца яны ярка і таленавіта. Анкетаванні паказваюць, што гэтая тэматыка з’яўляецца адной з найбольш папулярных у нашых чытачоў. Пра гісторыю краіны ці свету ёсць каму расказаць, а вось пра мінулае роднай вёсачкі, пра адметных людзей, што тут выраслі, пра цікавыя падзеі мінуўшчыны, якія, магчыма, і не пакінулі следу ў сусветнай гісторыі, але ад таго не менш важныя для мясцовых жыхароў — напіша толькі наша газета.

Больш як трыццаць гадоў у нас выходзіць “Літаратурная старонка”. Усе, хто спрабаваў свае сілы ў пісьменстве, ведаюць, як важна аўтару-пачаткоўцу надрукавацца, але часам не хапае майстэрства ці звычайнай смеласці, каб “засвяціцца” ў “тоўстых” часопісах ці вядомых, кшталту “ЛіМа”, газетах. А “раёнка” — найлепшая стартавая пляцоўка для мясцовых літаратараў. Не без гонару магу сказаць, што на старонках “Астравецкай праўды” друкавалі свае першыя творы і наш славуты зямляк прафесар Адам Мальдзіс, і вельмі таленавіты празаік, светлая яму памяць, Артур Цяжкі, і паэт Рычард Бялячыц, які ў свой час працаваў у штаце рэдакцыі, і Станіслаў Валодзька, і іншыя аўтары.

Да слова сказаць, я, як пісьменніца, таксама сваім станаўленнем абавязана “Астравецкай праўдзе”: на яе старонках праходзілі першую “апрабацыю” ўсе мае творы, і толькі тыя, якія, што называецца, “прагучалі”, атрымалі станоўчыя водгукі, я рашалася адпраўляць у літаратурныя выданні ці ўключаць у свае зборнікі апавяданняў.

Дарэчы, сярод супрацоўнікаў нашай газеты нямала таленавітых, як я лічу, паэтаў і пісьменнікаў. Таіса Сямёнава станавілася пераможцай конкурсу малога апавядання газеты “Звязда”. Яе вершы друкаваліся ў часопісе “Полымя”. Хрышчэнне “Полымем” прайшла і Ганна Чакур — вельмі самабытная і цікавая паэтка. Набірае моцы талент Антона Мальшэўскага. Ды і многія нашы няштатныя аўтары, пачынаючы з нясмелых публікацый у “раёнцы”, затым атрымліваюць шырокае прызнанне як таленавітыя майстры слова. І гэта не можа не радаваць.

Так што ў “Астравецкай праўды” ў пару яе 70-годдзя — высокі творчы патэнцыял. Які, я думаю, яна спаўна рэалізуе ў сваёй далейшай гісторыі.

## Збіраючы Айчыны зоркі

Кастусь ЛЕШНІЦА

**У краме выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” “PRэзентацыя” чытачам і пакупнікам прадстаўлена выданне “Беларускае замежжа. Белорусское зарубежье”.**

Кніга пабачыла свет напрыканцы мінулага года. Гэтая прэзентацыя — не першае прадстаўленне выдання чытачам і пакупнікам. Таму, магчыма, і размова на сустрэчы ў краме “PRэзентацыя” адбылася з улікам часу, які прайшоў пасля выдання, з ацэнкамі, што магчымыя толькі пасля ўважлівага прачытання даведніка, дбайна ўкладзенага кандыдатам гістарычных навук, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталляй Голубевай. Адкрываючы сустрэчу, прадстаўляючы гасцей, якія сабраліся на прэзентацыю, дырэктар “Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі” Таццяна Бялова адзначыла цэлы шэраг прыярытэтаў, якія складаюць сёння дзейнасць выдавецтва. Відавочна, што клопат пра збіранне інфармацыі пра ўраджэнцаў Беларусі ў свеце, пра іх здабыткі, унёсак у сусветную культуру займае ў выдавецтве важкае месца.

Дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Уладзімір Адамушка падкрэсліў, што “Беларускае замежжа” найбольш поўна адлюстроўвае комплекс ведання пра беларускую эміграцыю. Гэтаму спрыяе і велізарны масіў дакументаў, надрукаваных у даведніку. Гартаючы старонкі кнігі, можна зрабіць віртуальнае падарожжа ў самыя розныя часы — і ў тыя, калі землі Беларусі ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, і ў часы Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР.

Універсальнасць выдання заключаецца яшчэ і ў тым, што гістарычны кантэкст на яго старонках дапаўняецца знаёмствам з сённяшняй сітуацыяй прысутнасці беларусаў у свеце. Таму не выпадковым было на сустрэчы і выступленне старшыні ФНКА “Беларусы Расіі” пісьменніка Валерыя Казакова.

І аўтарскі калектыў, і энцыклапедычныя работнікі, і чытачы, якія ўжо пазнаёміліся з выданнем, былі аднадушныя — даведніку патрэбен працяг. Мо з часам ім стане энцыклапедыя з такой, напрыклад, назвай — “Беларуская эміграцыя”?..

# Вытокі шырокай прасторы

Сяргей ШЫЧКО

**80-гадовы юбілей адзначыла раённая газета “Пухавіцкія навіны”.**

У Мар’інай Горцы — “сталіцы” Пухавіцкага раёна — і зараз жывуць і працуюць літаратары — члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Гурын, Браніслаў Зубкоўскі, Вольга Савасцюк, якая, між іншым, з’яўляецца і рэдактарам мясцовай раённай газеты, а яшчэ кіруе працай літаратурнага аб’яднання пры райгазеце. І не дзіўна, што на юбілейных урачыстасцях у знак 80-годдзя “Пухавіцкіх навін” (а ў маі 1931 года газета выйшла ў свет пад назвай “За калгасы”) згадваліся імёны землякоў-літаратараў, пісьменнікаў, якіх у розныя часы закінуў лёс на Пухавіччыну.

У даваенныя гады адказным сакратаром “раёнкі” працаваў паэт Антон Бялевіч. Працаваў у пярэдадзень вайны ў газеце і паэт, між іншым, аўтар “Літаратуры і мастацтва”, Аляксандр Пармон. У Вялікую Айчынную рэдакцыйны калектыў друкаванага органа Пухавіцкага падпольнага райкама партыі “Партизан Белоруссии” узначальваў перакладчык, дзіцячы пісьменнік Уладзімір Ляўданскі. Пасляваенны лёс “Пухавіцкіх навін” — гэта і творчыя біяграфіі паэтаў Алеся Цвяха, Алеся Пісарыка, Мечыслава Шаховіча… Працаваў у штаце газеты і дзіцячы пісьменнік, літаратурны крытык Браніслаў Зубкоўскі. А таксама — публіцыст, краязнаўца, аўтар некалькіх кніг Анатоль Ярохін.

Віншаванні ў звязку з юбілеем “Пухавіцкіх навін” супрацоўнікі атрымалі ад Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскага аблвыканкама, Пухавіцкага райвыканкама.

# Ці вычарпаў сацыялізм свае магчымасці...

Галіна МАХНАЧ



**Чарговы пяты нумар часопіса “Беларуская думка” нядаўна пабачыў свет. Адкрываюць яго вытрымкі з паслання Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь, што тычацца найбольш важных бакоў жыцця нашага грамадства, а таксама ключавых прыярытэтаў сацыяльнага і эканамічнага развіцця. Пасланне каменціруюць прадстаўнікі ўлады, дыпламатычнага корпуса, грамадскіх арганізацый.**

Традыцыйнай рубрыкай выдання з’яўляецца “Практыкум”. Тут абагульняецца вопыт работы мясцовых органаў улады, дзейнасці якіх прысвечаны артыкулы Г. Маскаленкі “Масты ў будучыню” і С. Міхайлоўскай “Гаспадар сваёй справы”.

Як заўсёды, часопіс змяшчае салідны блок матэрыялаў на грамадска-палітычную праблематыку. Загаловак аднаго з іх — артыкула расійскага вучонага В. Дашычава “Чаму сацыялізм?” — многім нагадае аднайменны артыкул А. Эйнштэйна. Такое падабенства невыпадковае: абодва даследчыкі з розніцай у шэсць дзесяткаў гадоў задаюцца адным і тым жа пытаннем. Прынамсі, В. Дашычаў разважае, ці вычарпаў сацыялізм свае магчымасці ў доўгатэрміновай перспектыве. Аўтар прыходзіць да высновы, якая можа здзівіць чытача.

Сапраўдны шок — так можна ахарактарызаваць рэакцыю беларускага грамадства на крывавы красавіцкі тэракт. Даследаванню вытокаў тэрарызму як з’явы і яго сацыяльных пераддумоў прысвечаны артыкул Н. Хукі “Новая старая пагроза”. Псіхалагічная прырода злачынстваў аналізуецца ў матэрыяле Г. Махнач “Маральны закон унутры нас”.

У часопісе змешчаны таксама артыкулы кандыдата ваенных навук, генерал-маёра В. Шумілава “Працягваючы традыцыі вышэйшай ваеннай школы”, матэрыял “Кітайская філасофія ў вопыце рэформ” доктара філалагічных навук Л. Крыштаповіча, рэцэнзія членакарэспандэнта НАН Беларусі А. Данілава на кнігу вядомага беларускага журналіста А. Сімурава і шэраг іншых публікацый, якія абавязкова зацікавяць чытача.

# Танец як касмічная тэхналогія

Таццяна КАТОВІЧ,
мастацтвазнаўца

**Што было да слова? Таго самага, якое было напачатку і было ў Бога?.. Пэўна, быў Логас, які потым стаў словам. А да таго, як ён словам стаў, ён быў жэстам, альбо вачамі, альбо подыхам, альбо нотай… чым заўгодна, толькі тым, што зразумела было кожнаму чалавеку. Чалавеку, які толькі адчыніў сваё сэрца насустрач космасу, адчуўшы сваю спрычыненасць да яго… Гэтае сэрца было адчынена праз рытуальны танец. Таму харэаграфіяй з'яўляецца тое, што раней за слова і больш як слова раскрывала таемную сутнасць чалавечага памкнення да сваёй існасці, да свайго вытоку, да самай сарцавіны Сусвету. Тайнай была містэрыя, што выяўляла сэнс старажытнага міфа. А з цягам часу ад містэрыі і міфа засталася адна толькі метафара.**

Міф — Містэрыя — Метафара: вось формула і загадка чалавечага цела ў прасторы. Пра цялесную боскасць, пра выключнае супадзенне гармоніі цела з залатым сячэннем, якое Леанарда да Вінчы зваў "боскай прапорцыяй", ведалі здаўна. Пра сувязь цела з касмічнымі стыхіямі пачалі задумвацца ў мінулым стагоддзі.

Такія думкі заўсёды валодаюць мной, калі я гляджу пастаноўкі на IFMC — Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі ў Віцебску. І назіраю за развіццём калектыву тэатра "D.O.Z.SK.I". На мой погляд, ён пачынаў з мініяцюр, вельмі блізкіх да эстрадных паказаў, напоўненых лірыкай, пэўнай мяккасцю і чароўным наіўным гумарам. І да роздуму пра першапачатковую містэрыяльнасць пластыкі такая стылістыка дачынення асаблівага не мае. Аднак, калі я паспрабавала пагаварыць пра гэта з Дзмітрыем Залескім, пачула:

— *Не, гэта не так. Мы пачыналі са спектакля "Зіма", які не хацелі браць на фестываль у Віцебску з-за яго незвычайнасці… І, як правіла, да такіх спектакляў прыходзяць пазней… Вось каб мы сёння зрабілі такое, было б абсалютна нармальна. А тады… Нягледзячы на тое, што тут гэты спектакль не надта ўпадабаны, ён пяць разоў паказваўся ў Маскве.*

Тры дзяўчынкі ў татавых майках прачнуліся раніцай, не паспеўшы апрануцца, скокнулі ў татавы боты і, проста накінуўшы на плечы бацькава паліто, збеглі на вуліцу. А там замест прыгожай і рознакаляровай яркай восені засталася толькі шэрасць, засталіся пажухлае лісце, туман, дождж… А што далей? Далей — доўгая зіма…

Можна толькі заплюшчыць вочы і бегчы, а зіма крычыць табе ўслед штосьці неразборлівае, падобнае да свісту і рыкання адначасова.

Прачынаешся раніцай і вельмі доўга не разумееш: дзе ты? хто ты? і што такое было? Навокал усё ў снезе і вельмі ціха. Ні вецер, ні птушка не кране ніводную галінку на дрэве. Пануе сусветны спакой. Зіма такой і бывае. Здаецца, учарашні жах — толькі сон. І ты акуратна, каб не кранучь цішыню, паварочваеш галаву, каб агледзецца, і разумееш: ты толькі паліто зачапіўся за дрэва. А магчыма, гэта і сама Зіма, і яна супакоілася, калі схапіла цябе за каўнер. Яна стаіць, не кранаючыся з месца і не зважаючы на цябе… а з рота выглядвае галінка рабіны.

— *Я шмат чуў глядацкіх думак наконт сэнсу гэтай сцэны. Многія вырашылі, што я — дрэва, а дзяўчынкі поўзаюць па дрэве. А іншыя думалі, што я — вешалка. Магу падзяліцца сваімі меркаваннямі: зіма наша доўжыцца паўгода, а ты ідзеш без прыпынку, і зімаператвараецца ў доўгі і бясконцы шлях, пры канцы якога ў цябе не застаецца сіл. Аднак на гэтым шляху ёсць яркія плямы… Першы снег, калі яму радуюцца дзеці. Новы год. Проста сонечная марозная раніца. У такія дні людзі нагадваюць снегірой, якія спалі на галінках, надзьмутыя, як маленькія шарыкі. Аднак, варта рабінцы ўпасці на зямлю, яны пачынаюць лётаць вакол і радавацца, нібыта падарунку з неба, забыўшыся на холад. І радасці іх няма краю, і зіма ўжо не здаецца горкай. І ўсё ж зіма — гэта шэрая будзённасць, доўгі шлях па белым полі… Ідзеш і не бачыш канца дарогі, толькі чуеш удары свайго пульса; устаеш і зноў ідзеш… і боты твае засталіся недзе там, у снезе…*





А поўнае адкрыццё і з ім разуменне, потым і пільная ўвага да пошукаў танцоўшчыкаў і рэжысёра-харэографа адбылося ў Віцебску на IFMC у 2008 годзе, дзе калектыў атрымаў I прэмію ў намінацыі ("Аднаактовы балет") за спектакль "Грузінская". Здаецца, кожная народная мелодыя ў якасці асновы для пластычнага спектакля накіроўвае ўспрыманне па фальклорным шляху. Хочаш не хочаш, а музыка раней за ўсё пранікае ў нашу душу і працінае яе, і толькі на другім кроку наш мозг запамінае рухі акцёраў. Міжтым, "Грузінская" заваражвала рэхам далёкіх гор, тонкай інтанацыяй драматызму жыцця і мудрасцю старажытнай зямлі, водарам квітнеючага граната і строгім чорным колерам чалавечага гонару. У правай частцы сцэны за празрыстай заслонай узнікалі сілуэты, выцягнутыя, гонкія, доўгія. У цэнтры гэтак жа выцягнута і доўга сцякала вада. Мужчыны былі ў чорным, а цэнтральны персанаж яшчэ і ў доўгай чырвонай шырокай спадніцы. У спалучэнні элементаў народнага танца з абстрактнай сучаснай харэаграфіяй узнікала глыбокая філасофская інтанацыя задуменнасці і недаказанасці. Узнікала асацыяцыя з творам знакамітага Яўгена Панфілава, з "Мужчынскай рапсодыяй", што гэтак моцна ўразіла віцебскіх гледачоў. Нездарма неўзабаве Дзмітрый Залескі атрымае на IFMC прэстыжную фестывальную імянную прэмію Яўгена Панфілава. Аднак у адрозненне ад грузінскай інтанацыі і яскравай метафары пермскага харэографа беларускі пастаноўшчык вырашае свой спектакль надзвычай скупымі сродкамі, строга абмяжоўвае сябе, імкнучыся да мінімалізму. Мізансцэны Д. Залескага лаканізаваныя, ад гэтага метафара ўзбуйняецца і перарастае сябе. Дзякуючы канцэнтрацыі ў невялічкай прасторы, дзякуючы сутыкненню саліставаў літаральна на вастрыні нажа, дзякуючы ўвядзенню нетанцавальных элементаў узнікае дакладная структура. Яна — кшталту складанага выказвання. І між там, выказванне гэтае не распадаецца на складнікі-атамы, а ўяўляе сабой цэласнасць, адзінства. І не лірычнае, што тонкім ланцужком бяжыць за музычнай партытурай, а шчыльнае, нібы згустак лавы.

За гэтыя гады Дзмітрый Залескі паспеў многае. Ставіў нумары для конкурсу "Еўрабачанне". Удзельнічаў у праекце Сашы Варламава і Андрыса Ліепы "Тры музы — тры грацыі". Яго запрашалі для пастаноўкі харэаграфіі ў драматычных спектаклях тэатраў імя Янкі Купалы і РТБД у Мінску, імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску. Нядаўна здзейснены сумесны праект з тэатрам танца з Берліна. Спектакль з гэтага праекта быў паказаны ў Магілёве на сёлетнім форуме "M@art.кантакт". А тэатр "D.O.Z.SK.I" ў Магілёве прадставіў свой спектакль "Мухі на сонцы", створаны ў цякучых і светла-залатых колерах, ва ўлонні якіх плывуць залацістыя целы танцоўшчыкаў. Харэаграфія яднае мяккія лініі целаў з круглымі лініямі рухаў. Пластычны спектакль узнаўляе рытуалы старажытных плямёнаў, і таму рухі і позы падобныя да цякучых формаў, якія пераходзяць адно ў адно, то ствараючы цэлае, то зноў распадаючыся на фрагменты. Кожны рух трымае ў сабе падзею, хоць у прынцыпе ў "Мухах…" угледзець нейкі сюжэт складана, таму што рытуал узнаўляе ментальную карціну Сусвету, заснаваную на касмаганічным міфе, міфе стварэння, і салярным міфе, міфе Сонца. Архетып нараджэння, смерці і абагаўлення звязаны з настойлівым жаданнем чалавека дакрануцца да таямніц быцця свету і чалавечага існавання. І паколькі на сцэне ўзнаўляецца рытуал менавіта такога пранікнення ў таямніцу, то і сама пластычная тканіна спектакля вязкая і гамагенная. А структура пастаноўкі, між іншым, не такая ўжо і простая: у фінале ўзнікае медыя-праекцыя з ценевай выявай фігур танцоўшчыкаў, якія павольна ўзнімаюцца ад падлогі ўверх, у той час, калі іх сапраўдныя целы ляжаць на гэтай самай падлозе. Сэнс такога сумяшчэння двух планаў — у візуалізацыі катарсісу ў рытуале, у візуалізацыі самога абагаўлення і стану трансу.

— *Мы з Вольгай Скварцовай з Віцебска і ўзгадаваныя на фестывалі IFMC, мы шмат бачылі і шмат вучыліся. Да прыкладу, ідэя спектакля "Зіма" ўзнікла гадоў 12 таму… Ёсць імкненне да філасофскіх спектакляў. У нас усе спектаклі пра мужчынскі і жаночы пачатак як Інь і Янь. Жаночы пачатак — эмацыянальны. Мужчынскі — накшталт будыйскага манаха. Але ж расказаць пра гэта цяжка. Сучасная харэаграфія — такая: як толькі пачынаеш пра яе гаварыць, усё робіцца нейкім банальным… Словамі нельга перадаць тое, што адбываецца на сцэне. Словы сцёртыя…*

*Я стараюся браць усё новыя тэмы. У нас шмат фальклорных матываў, напрыклад, у балеце "Камень, вада, папера" гучыць японская інтанацыя. На мой погляд, фальклор і сучасная харэаграфія зусім шчыльна суадносяцца.*

*Мы стараемся быць чалавечнымі. Нават калі глядач нічога не зразумеў, ён павінен многае адчуць. Калі сёлета танцавалі нумар у шэрым пад электронныя гукі, гэта была спроба стварыць нумар жорсткі ў духу нямецкага экспрэсіянізму, але падкрэслю слова "экспрэсіянізму", бо ён не халодны і там экспрэсіянізму было больш за ўсё. Нават у той момант, калі танцоўшчык проста стаіць і толькі падымае палец уверх. Мне важна, каб у гэты момант было бачна добрага танцора і каб ад узняцця пальца ішла энергетыка.*

**На здымках: сцэны са спектакля "Зіма".**

***Заснавальнікі тэатра "D.O.Z.SK.I", міні-партрэты:***

***Дзмітрый Залескі,*** кіраўнік калектыву. Шэсць гадоў таму скончыў БДУКіМ як артыст ансамбля танца і стаў балетмайстрам і педагогам, бо яшчэ падчас вучобы стварыў шэраг мініяцюр. Адна з іх, "Сонейка", заснаваная на цыганскім фальклоры, з поспехам ідзе ў рэпертуары народнага ансамбля танца "Белая Русь". Малады пастаноўшчык працуе ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, дзе разам з Вольгай Скварцовай згуртаваў свой тэатр сучаснай харэаграфіі "D.O.Z.SK.I". Дзмітрый пастаянна бярэ ўрокі па тэхніцы, кампазіцыі і імправізацыі ў вядучых харэографаў свету, у школе сучаснага танца "ЦЕХ" (Масква), дзе вучыўся ў Джэрамі Нэльсана, Іланіта Тэдмара, Генры Монтаса.

***Вольга Скварцова-Кавальская***, адна з пачынальнікаў тэатра. Скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, балетмайстар, педагог. Падчас вучобы — першая выканаўца ролі Волечкі, "дзіцячага кахання" Шагала ў спектаклі В. Баркоўскага "Шагал… Шагал". Пастаноўшчыца пластычных партытур у драматычных спектаклях тэатраў Беларусі.

# Казачнае мроіва Сяргея Каваля

**Сапраўдны мастак заўсёды захоўвае вернасць свайму дзяцінству. Гэта надае творам шчырасць і першаснасць светаадчування, без чаго проста немагчыма ўявіць выяўленчае мастацтва. Асабліва такое датычыць жывапісцаў, якія спавядаюць інсітнае, або наіўнае, мастацтва. І нічога крыўднага няма ў тым, што іх час ад часу называюць прымітывістамі. Менавіта яны нібыта сінтэзуюць традыцыйную народную творчасць — лубок і тое, што лічыцца наіўным рэалізмам. Імкненне да прастаты, але не да спрошчанасці, лаканізм выяўленчых сродкаў, яркая расфарбоўка, палічаная звычайна на зрокавы эфект, тлумачальныя надпісы… Гэта далёка не поўны пералік асаблівасцей такой мастацкай творчасці.**



**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ, г. Светлагорск**

Вось чаму і творы Сяргея Каваля, які жыве ў вёсцы Якімава Слабада Светлагорскага раёна, адразу ж звярнулі на сябе ўвагу падчас калектыўнай выстаўкі мясцовых мастакоў у карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава. Яго "Дзяўчынка з яблыкамі" і "Хлопчык з дзіцячага дома" пазіралі на нас усёй сутнасцю сваіх не лепшых жыццяў. Мастак здолеў сказаць гэтымі сюжэтнымі партрэтамі нават нешта большае, чым увасобіў фарбамі. Нешматколерным, стрыманым каларытам ён перадаў не толькі знешні, але і ўнутраны драматызм сваіх герояў.

Гэта былі першыя творы мастака, з якімі пазнаёміліся светлагорцы. Мне ж даводзілася бачыць шыкоўны каталог "Святло і цені", выдадзены Міжнародным аўтамабільным холдынгам "Атлант-М". З яго і даведаўся пра Сяргея Каваля. Аказваецца, у Мінску адбыліся дзве персанальныя выстаўкі гэтага мастака. Многія карціны набылі калекцыянеры з Германіі, Францыі, Бельгіі, Расіі.

Насуперак агульнай думцы, што любімым мастаком яго павінен быць Пірасмані, Сяргей Каваль назваў Пабла Пікасо. І гэта пры тым, што не толькі тэматычна, але і духоўна ўсёй сваёй сутнасцю ён увасабляе народнае ўяўленне пра выяўленчае мастацтва. Не дзіўна таму, што многія творы (а яны вельмі прасторавыя) прысвечаны сялянскаму жыццю, побыту. Неяк сапраўды па-дзіцячаму шчыра перадае мастак сваё адчуванне роднай прыроды, дакладней — гармоніі з ёю. Яго вясковыя фантазіі вельмі рэалістычныя, хаця і стылізаваныя. Мне надаралася чуць ад аўтара прозвішчы, імёны тых, каго мы бачым на карцінах. Аднак майстэрства вольнай, нязмушанай кампазіцыі ў кожнай з іх проста захапляе. І тым не менш адчуваецца менавіта тая цэласнасць, якую нельга парушыць. Маленькія, мініяцюрныя героі яго твораў, здаецца, надзелены толькі ім уласцівымі лёсамі, характарамі, — так і хочацца сказаць, ролямі, якія яны "выконваюць" у той ці іншай карціне. Варта нешта змяніць — і знікне ўся істотнасць задумы, увасаблення. Пазбаў аднаго з герояў — і ўсё рассыплецца. А якая непасрэднасць, шчырасць, свабода! Не напісана, а выдыхнута чыстымі, адкрытымі колерамі. Рэдкія ўмоўныя цені толькі пацвярджаюць гэта…

Было б, аднак, памылковым лічыць яго наіўнае мастацтва абмежаваным ад усіх і ад усяго. Не толькі Пірасмані, але і многія іншыя славутыя мастакі прыгадваюцца, калі гартаеш каталог "Святло і цені". Гэтага не хавае і сам Сяргей Каваль. Вось некаторыя назвы яго карцін, якім ён надае асаблівую асацыятыўную значнасць: "Размова з прыяцелем Моцарта", "Падарожжа ў нікуды" (інтэрпрэтацыя карціны Сальвадора Далі "Аптэкар з Фігераса, які не шукае абсалютна нічога"), "Першы снег. Сон Пірасмані ў "Райскім садзе" Босха", "Падарожжа Хуана Міро і Пабла Пікасо ў Афрыку". Гэта далёка не поўны пералік, бо прыгадваюцца такія славутыя мастакі, як Сар'ян, Мадзільяні, Суцін… Ён піша копіі твораў Цімура Сюдзана, Масанобы, Пікасо, прыгадвае Шэкспіра, Хемінгуэя, прысвячае свае мастакоўскія фантазіі Анры Мацісу… Як бачым, асацыятыўная маштабнасць — навідавоку. Майстэрства Сяргея Каваля настолькі натуральнае, што застаецца непрыкметным. А гэта яскравае сведчанне сапраўднай таленавітасці. Асабіста мне падалося, што многія яго карціны існавалі заўсёды. Так думаў, калі ўзіраўся ў "Калядную ноч", у "Сны майго горада", "Райскі сад", эскіз габелена "Венецыя", "Касмічную адысею", у партрэты жанчын розных краін свету.

Цыкл карцін (і гэта таксама для яго вельмі натуральна) прысвечаны дзецям. У ім Сяргею Кавалю не давялося адмаўляцца ад сваіх асноўных стылёвых асаблівасцей. Хіба толькі "дзіцячасці" — яркай, захапляючай — значна больш ("Лета ў вёсцы", "Лепшыя на свеце", "Райскі востраў", "Русалка на востраве Чунга-Чанга"). І ўсё ж асабліва пранікнёна праявіў сябе мастак у шматпланавых, шматлюдных (так і хочацца сказаць, шматсюжэтных) карцінах, прысвечаных роднай вёсцы і Светлагорску ("Мая родная вёска Якімава Слабада", "Сенакос", "Стары Светлагорск", "Мая вуліца"). Дзве апошнія з іх ён падарыў карціннай галерэі "Традыцыя".



Творчы партрэт Сяргея Каваля будзе няпоўным, калі не сказаць, што на яго мастакоўскім рахунку шэраг ікон ("Дзева Марыя", "Ісус Хрыстос", "Мікалай Цудатворац" і іншыя). А яшчэ ён захапляецца драўлянай скульптурай. Зноў жа тэматычны дыяпазон іх самы разнастайны, але галоўным застаецца яго шчырае, прасякнутае таленавітай наіўнасцю, першапачуццёвае адчуванне мастацтва.

Мне даводзілася бачыць рэпрадукцыі карцін Сяргея Каваля ў штотыднёвіках "Культура", "Літаратура і мастацтва", газеце "СБ. Беларусь сегодня". Ведаю, што ён прадстаўлены ў альбоме мастака і эсэіста Юрася Малаша "Патаемнае наіўных мастакоў Беларусі", прэзентацыя якога адбылася ў выставачным комплексе гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Заслаўе". Дарэчы, у мастацкім фондзе музея ёсць шэсць твораў Сяргея Каваля. Вось што пісала газета "Культура" ў сакавіку 2006 года: "Творчасць самадзейнага мастака Сяргея Каваля з вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна некаторымі спецыялістамі была заўважана і ацэнена ўжо даўно, але шырокай публіцы яна да апошняга часу была амаль невядомай. Вядомасць да Каваля прыйшла пасля таго, як летась Міжнародны аўтамабільны холдынг "Атлант-М" выдаў шыкоўны каталог з яго работамі. Мастак стварае інсітныя партрэты, пейзажы, цікавыя творы панарамнага характару, свае варыянты абразоў, займаецца і скульптурай. Сярод галоўных тэм яго творчасці — французскія матывы і ярка выражаная беларускасць". Дадам толькі, што вядомасць гэтая ў вёсцы мастака пакуль не адчуваецца. Пасля смерці маці жыве Сяргей Мікалаевіч у роднай хаце разам з бацькам. Усё часцей праблемным становіцца набыццё фарбаў, палатна, і карціны даводзіцца аддаваць па кошце таго, што неабходна для працы. Яго шчодрасць увайшла ўжо ў мясцовыя прымаўкі…

А мастак з Якімавай Слабады сапраўды ўмее ствараць фарбамі легендарна-казачнае мроіва, якому проста нельга не верыць.

*На здымках: "Старажыл", "Калядная ноч".*

# Букет Перамогі — абаронцам Айчыны

**Тацццяна КІРЫЛАВА**

Урачыстае адкрыццё Студыі ваенных мастакоў, створанай па ініцыятыве Міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўніка Леаніда Мальцава, адбылося 12 снежня 2003 года. Галоўная мэта гэтай творчай суполкі — развіццё ваенна-гістарычнай і героіка-патрыятычнай тэмы ў мастацтве. Асноўная задача студыі — стварэнне і прапаганда мастацкіх твораў, якія спрыяюць духоўнаму выхаванню гледача.

Творы вядомых беларускіх жывапісцаў на выстаўцы "Абаронцам Айчыны" — гэта пазіцыя мастакоў сённяшняга дня, жаданне аўтараў данесці да гледача тое, што пражыта старэйшымі пакаленнямі і не выкраслена з народнай памяці. Гэта ўдзячнасць усім, хто падараваў нам Вялікую Перамогу, хто з годнасцю працягвае воінскія традыцыі, захоўвае сёння самае галоўнае — мір і спакой на нашай зямлі.

**Зямля пад белымі крыламі першай прыняла на сябе страшэнную навалу акупацыйных войскаў. Жудасная вайна пакінула свой след літаральна ў кожнай беларускай сям'і. Але няскораны беларускі народ за вельмі кароткі час змог загаіць акрываўленыя раны і пераўтварыць разбураную Радзіму ў квітнеючы сад. Менавіта пра гэта гаварыў старшыня Барысаўскага райвыканкама Уладзімір Міранович на адкрыцці выстаўкі "Абаронцам Айчыны" ў мастацкай галерэі "З'ява". У экспазіцыі прадстаўлены творы Студыі ваенных мастакоў, прысвечаныя святкаванню Дня Перамогі.**

На выстаўцы дэманструецца каля 20 манументальных жывапісных твораў знакамітых беларускіх мастакоў: народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага, заслужаных дзеячаў мастацтва Мікалая Апіёка, Уладзіміра Уродніча, Леаніда Дударэнкі і прафесараў Уладзіміра Гардзеенкі і Георгія Лойкі.

Экспазіцыя ўражвае амаль дакументальнай дакладнасцю. Жывапісныя палотны — гэта сустрэча з цікавымі творцамі, якія маюць свой стыль і сваю выяўленчую мову. Творы М. Апіёка, У. Уродніча, Л. Дударэнкі, У. Гардзеенкі ствараюць адмысловую вобразную сістэму, якая пабудаваная на пачуццёвым і асабістым адчуванні. Іх як сапраўдных творцаў не пакідае абыякавымі роля моцнай асобы ў гістарычных варунках (М. Апіёк "Шчыт Айчыны-2004", "Ваша меркаванне, таварыш Жукаў"; У. Гардзеенка "Балада пра лётчыка падпалкоўніка У. Карвата"; У. Уродніч "На магілёўскім напрамку"). Жывапісныя творы напоўнены складанымі асацыяцыямі, якія не ўспрымаюцца аднабзначна і прымушаюць гледача крытычна разгледзець і даць ацэнку мінуламу і сучаснасці.

Г. Лойка ў сваіх творах адлюстроўвае сучасную вайсковую рэчаіснасць. Мастак схоплівае сутнасць асобы і перадае яе класічным спосабам. Ён ідзе ад эмацыянальнага ўражання, ад вобраза, які павінен хваляваць і настройваць гледача на роздум ("Пасля палётаў", "Птушка").

Эмацыянальна, трагічна і ўсхвалявана адлюстраваны падзеі партызанскай барацьбы ў творчасці народнага мастака Г. Паплаўскага. У выніку яго рэалістычная манера адрозніваецца стрыманым разуменнем каларыту, пастаноўкай складаных кампазіцыйных задач. Яго своеасаблівую манеру пісьма аматары выяўленчага мастацтва заўсёды пазнаюць. Гэты майстра застаецца актуальным і запатрабаваным сучасным гледачом.

Выстаўка "Абаронцам Айчыны" сталася адметным падарункам барысаўчанам і гасцям горада ад калектываў мастацкай галерэі "З'ява" і Студыі ваенных мастакоў.

# Зямлі бацькоў дабраслаўленне

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Усё больш умацоўваецца традыцыя паралельнага прадстаўлення ў Палацы мастацтва творчасці адразу двух мастакоў. Вось і нядаўна там адкрыліся дзве персанальныя выстаўкі: "Дабраслаўленне" Лявона Грышука, прымеркаваная да яго 60-годдзя, і "Зямля бацькоў" — да 50-годдзя Анатоля Бяляўскага.**

Як зазначыў намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Сяржук Цімохаў, юбіляры адразу знайшлі паміж сабой агульную дамоўленасць, суладдзе. Іх творы адрозніваюцца, але тым не менш дапамагаюць адзін аднаму па стане душы, сваёй тэматыцы, якая ў нейкай ступені быццам бы розная, але напоўнена ўнутраным пачуццём, шчырасцю, адкрытасцю, любоўю да сваёй краіны, да краявіда, улюбёнасцю ў жыццё. Бо яны станоўчыя. Лявон Грышук браў удзел у ліквідацыі чарнобыльскай аварыі, за што быў узнагароджаны медалём. Таму ў яго работах значнае месца займае тэма духоўнасці і душэўнасці, памкненне да вечнага.

Мастацтвазнаўца, куратар абедзвюх выставак Яўген Шунейка ахарактарызаваў Лявона Іванавіча як чалавека няўрымслівага, маладога сэрцам, з адмысловым адчуваннем свету. У гэтай жа зале ён выстаўляўся на свой 50-гадовы юбілей. Але прамінулае дзесяцігоддзе было напоўнена новымі пошукамі ў творчасці. Першая частка экспазіцыі змяшчае творы, напоўненыя захопленасцю і адчуваннем адказнасці за наш час, за нашу маральную аснову, за будучыню. Мова Лявона Грышука зразумелая і блізкая кожнаму: з аднаго боку, узвышаная, а з другога, — звязаная з глыбінямі нашых духоўных падзенняў. Так бы мовіць, своеасаблівы сповед мастака. Другая частка экспазіцыі — пейзажы, бо ён заўзяты майстар эцюдаў. У розныя паравіны года выязджае малявацьна прыроду. Адным словам, "Дабраслаўленне" — удалы старт для новага дзесяцігоддзя творчасці.

Л. Грышук запрашае сваіх гледачоў паглыбіцца ў складаны і шматзначны свет духоўнай праблематыкі, дзе існуюць нявырашаныя пытанні, канцэнтруюцца кантрасты цемры і святла. Амаль бесцялесныя абагульненыя здані, якія паўстаюць на яго творах, маюць вельмі метафарычны характар, змушаюць задумацца над сэнсам жыцця, яго выпрабавальнымі шляхамі да вышэйшых мэт і падзеннем у пустку бездухоўнасці. Прайшоўшы выпрабаванні як ліквідатар на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе, мастак вельмі шануе сваё творчае права звяртацца да сучаснікаў на вобразнай мове жывапісу, якая робіць моцнае эмацыянальнае ўздзеянне, пакідае вострыя экспрэсіўныя ўражанні. Яго колеравыя вырашэнні адрозніваюцца гучнымі сукведціямі, кантраснымі спалучэннямі сонечных і замглёных колераў. Яны настройваюць на шчырае ўспрыманне сімвалічных адлюстраванняў, якія немагчыма звесці да натуралістычнага апісальніцтва. У мастака таксама заўсёды знаходзіцца час, каб працаваць з натуры, пісаць шматлікія эцюды. Яны дапамагаюць яму перадаваць адкрыццё сапраўднага прыроднага хараства, назапашваць патрэбныя вобразныя ідэі. Многія эцюды пераўтвараюцца ў завершаныя пейзажныя матывы, выкананыя на адным дыханні. Лявон Грышук па-добраму радуе сваёй творчай няўрымслівасцю, прагай да эксперыментаў і жаданнем быць першапраходцам у рэчышчы актуальных мастацкіх задач.

На выстаўцы Лявон Іванавіч дэманстраваў свае шматлікія пейзажныя кампазіцыі, звязаныя з плённым метадам пленэрнага жывапісу. Найбольш вабяць аўтара не кранутыя сучаснымі зменнямі ладу жыцця маляўнічыя куточкі роднага краю, багатыя сваёй каларыстычнай палітрай: "Добры ўспамін", "Стары хутар", "Лясная сцежачка", "Жэўжык ручаёк", "Каля кладачкі", "На беразе возера", "Ветраны дзень"... Вялікую ўвагу надае аўтар і мемарыяльным пейзажам, прысвечаным мясцінам са шматлікімі архітэктурнымі помнікамі мінулага, дзе засталіся сляды жыцця і дзейнасці славутых людзей Беларусі.

Асобны раздзел экспазіцыі прысвечаны біблейскай тэматыцы, якая мае актуальнае выхаваўчае і вобразнае значэнне для духоўнага і культурнага развіцця сучаснага грамадства: "Анёл, выратуй", "Пацалунак Іуды", "Мы дойдзем, Госпадзі", "Віфлеемская зорка", "Дапамога ад Бога"... Старшыня суполкі "Пагоня" Генадзь Драздоў і яе сябар Алесь Мара адзначылі, што сакральныя тэмы заўсёды хвалююць чалавека. А работы Лявона Грышука не проста напісаныя на біблейскую тэму — гэта яго ўласныя перажыванні.



Народны мастак Беларусі прафесар Васіль Шаранговіч распавёў не толькі пра выстаўку Анатоля Бяляўскага "Зямля бацькоў", але і пра жыццё творцы. Бо яны з ім — землякі. Анатоль Іванавіч закончыў факультэт дызайну, але з малалых гадоў хацеў займацца жывапісам. І стаў жывапісцам самастойна, таму што выдатна адчувае прыроду, колер, гармонію. На імправізаваную сцэну Васіль Шаранговіч запрасіў бацьку Анатоля Бяляўскага, 87-гадовага Івана Сцяпанавіча, і ўзгадаў, што той выкладаў у школе беларускую мову і літаратуру, а так як у школе не было настаўніка малявання, то дадаткова і малюнак.

Увогуле, павіншаваць юбіляра прыйшлі шматлікія яго родзічы. Сястра А. Бяляўскага Вольга Андрушчанка падкрэсліла, што на станаўленне яго як мастака вельмі паўплываў не толькі бацька, але і дзед Павел. З гэтай нагоды яна напісала і зачытала верш прысутным, які хочацца працытаваць цалкам: *Мой дзед багаты быў на ўнукаў, // усіх любіў і паважаў, // табой надзвычай ганарыўся, // нікому ў крыўду не даваў. // "Калі ты толькі нарадзіўся, // сам Бог цябе пацалаваў", // — казаў стары. Не памыліўся, // жыццё тваё прадугадаў. // Юнак у захапленні застываў // каля рабінкі, што расла ля хаты, // а потым, як садзіўся да стала, // уваскрашаў яе ўпарта і заўзята. // Суседа маляваў не малады, // а з сівізной на скронях. // І конь, які пасеца на лугу, // знянацку падымае галаву // ды так і застаецца ў альбоме. // А крапіва, што разраслася па сцянах, // зашапацела неяк на паперы. // І дзед смяяўся: "Вось дык галава, // мастак, напэўна, будзеш ты, павер мне". // Мой родны дзед, // калі б ты толькі знаў, // твае згадкі хлопец апраўдаў.*

Са слоў Яўгена Шунейкі, жывапісная творчасць Анатоля Бяляўскага ўражвае сваёй тэматычнай разнастайнасцю. Пасля завяршэння прафесійнай адукацыі мастак шмат вандраваў па розных краінах свету. Але галоўнае яго захапленне — родная Беларусь, яе гісторыя і сучаснасць. Жывучы ў Мінску, ён заўсёды знаходзіць для сябе памятныя пейзажныя матывы ў Верхнім горадзе, у прыгарадах сталіцы, у больш аддаленых мясцовасцях. Беларуская прырода ў летні ці зімовы час зачароўвае мастака сваёй вобразнасцю, утульнымі куточкамі, ціхай плынню рэчак, светлымі далягладамі.

Экспазіцыя выстаўкі "Зямля бацькоў" уключала шматлікія пейзажы, партрэты і нацюрморты мастака. Са шматлікіх замежных падарожжаў мастак прывёз шмат пейзажных твораў, якія пашыраюць межы нашых вобразных уяўленняў пра сучасныя творчыя сувязі са светам. У нацюрмортах ён услаўляе багацце дароў роднай зямлі, дэманструе свае здольнасці выдатнага маляўальшчыка форм прадметнага асяроддзя. А. Бяляўскі валодае вострым вокам назіральніка, што дапамагае яму перадаць патрэбныя дэталёвыя адлюстраванні раслінных і архітэктурных форм: "Мінскія прасторы", "Венецыя", "Абуджэнне", "Родныя прасторы"...

Вялікім здабыткам мастака з'яўляюцца партрэты. Асаблівай дакладнасцю малюнка і выразнасцю партрэтных рыс адрозніваюцца вобразы нашых сучаснікаў, якім ён прысвяціў свае новыя творы.



Гэта дарагія сэрцу бацькі і члены сям'і Анатоля Бяляўскага, вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, спартсмены, навукоўцы: "Бацька", "Маці", "Каця", "Народны мастак Беларусі Л. Шчамялёў", "Балерына Кацярына Алейнік", "Акадэмік А. Рубінаў", "Прафесар С. Леановіч", "Алімпійскі чэмпіён Аляксей Грышын"... Такую партрэтную серыю можна множыць і далей, бо наша краіна — зямля дастойных і паважаных людзей. Мастак праявіў сябе як нястомны і натхнёны майстар, які кожны дзень праводзіць у сваёй майстэрні, жадаючы здзяйсняць новыя шматлікія задумы, звязаныя з невычэрпнай тэматыкай роднай зямлі.

***На здымках: работы мастакоў Анатоля Бяляўскага "Заснуўшая ў цені" і Лявона Грышука "Віфлеемская зорка".***



# Сучаснасць і рэтра

Віктар ЗАЯЦ,
фота аўтара

Вось ужо ў чацвёрты раз у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася Мінская міжнародная выстаўка графікі "Арт-лінія". Куратарам адмысловага праекта з'яўляецца загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці гэтай установы, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб. Экспазіцыі твораў графікі наладжаны адразу ў трох галерэях — "Ракурс", "Лабірынт" і "Атрыум". Свае работы прадстаўляюць мастакі з Беларусі, Швецыі, Польшчы, Эстоніі, Украіны, Кубы, ЗША.

Летась упершыню ў выстаўку графікі "Арт-лінія" была ўключана рэтрапраграма — экспазіцыя літаграфій англійскага графіка і архітэктара Джозэфа Нэша (1809 — 1878), вядомага ў Еўропе сваімі архітэктурнымі пейзажамі і жанравымі сцэнамі. Менавіта гэтая выстаўка, якая складалася з 42 твораў, з'явілася першай прэзентацыяй фондаў графікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэта практыка мае месца і ў дадзеным праекце.

Сёлета ўвазе гледачоў — наступная рэтрапраграма: калекцыя рэпрадукцыйнай французскай графікі XIX — пачатку XX стагоддзя з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Выстаўка наладжана ў галерэі "Атрыум" і складаецца з 56 работ, якія выкананы ў розных графічных тэхніках: афорт, літаграфія, разцовая гравюра на медзі. Сярод аўтараў — П. Маро, К. Феўр, Э. Бюлан, А. Лалоз, А. Лекуто, Э. Шыке, Л. Журно, А. Дзідзьен. Многія з гэтых творцаў рэпрадуцыравалі ў свой час работы такіх вялікіх майстроў, як Веласкес, Хальс, Энгр, Рубенс, Рэмбрант і інш.

З усіх відаў выяўленчага мастацтва менавіта графіка развіваецца дынамічна, выкарыстоўваючы найноўшыя тэхналогіі: камп'ютарныя праграмы, фотаэксперымент, а таксама сучасныя віды друку і змешаныя тэхналогіі. Побач з гэтым цікавасць да класічных графічных тэхнік не страціла сваёй актуальнасці. Высокае майстэрства лініі і штрыха дазваляе ўвасобіць самыя смелыя ідэі.

Ганаровымі гасцямі "Арт-лініі" за мінулыя гады былі знакамітыя на ўсім свеце Карла Акардзі (Італія), Джорджа дэ Кірыка (Італія), Фелікс Караль (Славенія). У гэтым годзе ганаровы госць выстаўкі — народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны, прафесар Арлен Кашкурэвіч.

IV Мінская міжнародная выстаўка графікі "Арт-лінія" мае на мэце раскрыць новыя перспектывы графікі, яе вялікі патэнцыял, здольнасць пастаянна абнаўляцца, адкрываць магчымасці для пошуку і эксперыментаў, акрэсліць сённяшні стан графікі, яе месца ў творчасці сучасных мастакоў Еўропы, пасадзейнічаць усталяванню творчых кантактаў.

***На здымку: аркуш А. Кашкурэвіча з трыпціха "Час Ірада".***

# Усе фарбы Случчыны

**Слуцк для Алены Хатэнкі заўсёды быў родным домам. Тут нарадзілася, вучылася ў дзіцячай мастацкай школе. Сюды вярнулася, скончыўшы ў Мінску, акурат 10 гадоў таму, славутую "Глебаўку". У ДШМ старажытнага мястэчка Грэск (па-цяперашняму — вёскі, падмурка новага аграгарадка), што за два дзясяткі кіламетраў ад чыгуначнай станцыі Слуцка, выкладала малюнак і гісторыю сусветнай мастацкай культуры. А ў самім Слуцку працавала мастаком па ткацтве на фабрыцы мастацкіх вырабаў. Цяпер Алена кіруе ў родным горадзе гуртком Цэнтра дзіцячай мастацкай творчасці. Яна самастойна спасцігала сакрэты народных майстроў у розных відах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і ўжо можа навучыць дзяцей рабіць, напрыклад, беларускія выцінанкі.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

У Слуцку адбылася і самая першая выстаўка Алены Хатэнкі. Было гэта чатыры гады таму. Сёлета ж дзівасвет адкрыла для сябе мінская публіка: работы таленавітай случанкі выстаўляліся ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, затым у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (экспазіцыя "Вандроўка: зіма — лета"). А нядаўні вернісаж "Дымкі" (з націскам на першым складзе, гэтак завецца традыцыйны беларускі арнамент ткацтва "ў шашачкі") разгарнуўся ў Дзяржаўным музеі прыроды і экалогіі — Доме прыроды, што ў Траецкім прадмесці. Арганізатары — Саюз пісьменнікаў Беларусі, Беларускі фонд культуры і рэдакцыя часопіса "Вясёлка" — прысвяцілі выстаўку 100-годдзю з дня нараджэння цудоўнага дзіцячага пісьменніка Васіля Віткі, ураджэнца Случчыны. Куратар праекта, мастацтвазнаўца Ларыса Салодкіна зрабіла трапны дызайн выставачнага буклета, размясціўшы між рэпрадукцый цытаты з твораў Васіля Віткі, які "і ў сталыя гады... не адцураўся маленства". Прастора Дома прыроды сталася арганічным асяроддзем для немудрагелістасці шчырых нацюрмортаў, пейзажаў з таямнічымі постацямі дрэў, настраёвым небам, ды асабліва — для дзівосных дэкаратыўна-прыкладных твораў Алены Хатэнкі, выкананых у змяшанай тэхніцы.

Яе натхненне "матэрыялізуецца" праз дзівосныя спалучэнні керамікі, ткацтва, габелена, вязання, пляцення, вышыўкі, аплікацыі са скуры. Уражвае ўсё: поліфанічная пластыка выяў, іх метафарычная глыбіня, супастаўленне, камбінаванне фактуры дэталяў, тэкстуры матэрыялаў, што нараджае дадатковую вобразнасць і выклікае захапленне фантазіяй мастачкі, неабмежаванасцю яе погляду на свет, вынаходлівасці. Для кожнай кампазіцыі знаходзяцца адпаведны фон і атачэнне; уражанне такое, нібы выбар фактуры палатна і рамкі для яго нараджаецца разам з вобразнай задумай. Адно шкада: камерныя станковыя работы многае страчваюць, калі перарабляюцца ў газетныя рэпрадукцыі: пры змяншэнні фотаздымка шматлікія дробныя дэталі (але не дробязі!) проста знікаюць, пазбаўляючы зрокавы вобраз цікавых нюансаў, дадатковых сэнсаў. Рукатворныя цуды майстрыхі-казачніцы Алены Хатэнкі трэба разглядаць зблізку, сам-насам і няспешна. Толькі так раскрываецца перад табою дзівасвет, угадаваны на фарбах яе роднай зямлі, выпеставаны ў яе багатым, па-дзіцячаму неўтаймоўным творчым уяўленні, напоўнены пазітыўнай жыццёвай філасофіяй, мяккім гумарам.

Вось тут — радно, на ім малюпасенькімі шарыкамі ды камячкамі рудавата-чырвонай гліны рассыпаліся лясныя ягады, жалуды, узорыстыя лісточкі. А вось "Бульбачка": у стрункіх барознах-ніцінах корпаюцца, не падымаючы галавы, мініяцюрныя сялянкі, выбіраюць керамічныя "клубні". У кожнай фігуркі — выразная спіна, абцягнутая простай кофтай; на кожнай — бавоўняныя панчохі "ў рызінку". І ў кожнай — перспектыва светлага нябеснага далягляду (золак ці змяркание?), сатканага з крэмавых, блакітных, шараватых нітак. Дэкаратыўны сюжэт "Ад неба да зямлі" — нібы прыпавесць пра вясёлых беларусаў, якія ўскараскаліся на лесвіцу, што ўпіраецца ў неба, узнёсшыся над габеленавымі дахамі хацінак і вершалінамі дрэў, над глінянаю крынкай, контур якой складзены з мноства дробненькіх, як худы гарох, глякоў. Дзівішся на майстэрства аўтаркі кампазіцыі. Кожны яе персанаж — са сваім норавам, са сваім характэрным выразам твару і адметнай пластыкай. Вопратка маленькіх лялечак аздоблена беларускім арнаментам, а кожны пляскаты скураны гузік ладна прышыты мікраскапічна тонкай нітачкай...



Алена Хатэнка — майстар, які ведае і спалучае розныя прыёмы, уласцівыя традыцыйным відам дэкаратыўна-прыкладной творчасці, мае прытым жывапісны густ і адчуванне законаў кампазіцыі. Але яркі талент рэдка ўкладаецца ў схаластыку канонаў і немагчыма знайсці аналаг яго ўнікальнасці. Мастачка прызнаецца ў любові да няяркіх фарбаў беларускага краявіда, да нашых дажджоў і туманоў, сцішаных жабак у мокрай траве, паважных буслоў. Імкнецца праз свае работы выклікаць у людзях прыхаваныя пачуцці радасці, весялосці, патрыятызму, а яшчэ — болю за тыя выпрабаванні, што прыпалі на долю Беларусі. Яна строга трымаецца свайго творчага прынцыпу: "Мастацтва — дзеля мастацтва, ніводнай фарбы на продаж". І сябры ды знаёмыя пацвярджаюць, што жорсткасць сённяшніх рынкавых варункаў у адносінах да творчага чалавека не ўплывае на далікатны, але незалежны ўнутраны свет Алены: яе натхненне насамрэч не прадаецца, творы не тыражыруюцца. Яны такія самабытныя і ні з чым не параўнальныя, бо ў кожным — непаўторныя фарбы і вобразы роднай Случчыны, спыненыя імгненні бясконцай мастацкай фантазіі.

***На здымках: работы Алены Хатэнкі "30 лістапада ў лесе", "Ад неба да зямлі" (фрагмент).***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

### Шкляныя карункі на Пружаншчыне

Асаблівае месца сярод беларускіх мастакоў належыць Марыі Кулецкай, — народнаму майстру Рэспублікі Беларусь, члену Саюза народных майстроў Беларусі, абласнога Саюза майстроў "Скарб", грамадскай арганізацыі аматараў мастацтва рэгіёна "Белавежская пушча" і Брэстчыны "ТУР", чалавеку, які працуе ў розных мастацкіх жанрах, — жывапісе, графіцы, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Аднак вядучае месца ў яе творчасці займае мастацкая тэхніка "роспіс па шкле". Менавіта М. Кулецкая першай у Беларусі стала адраджаць гэтае забытае традыцыйнае народнае мастацтва "маляванак".

Яе "шклінкі" не ўспрымаюцца як штосьці спрошчанае і беззмястоўнае. За гэтай "прастатой" уважлівы глядач абавязкова ўбачыць густ, пачуццё меры, дасканала валоданне тэхнікай. Нягледзячы на тое, што прыкладам для творчасці М. Кулецкай былі работы самадзейных майстроў пачатку XX ст., яе творы не сталі простай спробай рэанімацыі старога мастацтва. Марыя Мікалаеўна, адштурхнуўшыся ад прыёмаў і метадаў традыцыйных "вясковых маляванак", прафесійна пераасэнсавала гэтыя ўзоры народнай творчасці і фактычна адрадзіла гэты від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на якасна новым узроўні, дазволіўшы яму арганічна ўпісацца ў сучаснае жыццё. М. Кулецкая — чалавек, які шчодра дорыць свае веды і творчасць людзям. Яе з задавальненнем сустракаюць на радзіме, дзе яна неаднаразова праводзіла майстар-класы ў дзіцячых садках і школах раёна, музеі-сядзібе "Пружанскі палацык", у розных рэгіёнах Беларусі, за мяжой. У 2009 г. у г. Бельск-Падляскі (Польшча), каб навучыцца мастацтву "маляванак" у Кулецкай, людзі ехалі за дзясяткі кіламетраў, за шкло селі нават амерыканскія студэнты. А ў 2010 г. у "Пружанскім палацыку" адбылася сустрэча М. Кулецкай з кіраўніцтвам Нацыянальнай асацыяцыі майстроў Швецыі.

З 2006 г. пры пружанскім Палацы культуры існуе клас народнай творчасці, дзе дзеці і дарослыя вучацца пісаць па шкле. За час існавання з яго выйшла больш як 300 выхаванцаў. На сённяшні дзень заняткі наведваюць 45 чалавек. Акрамя шклянога роспісу яны засвойваюць тэхніку працы з акварэллю, гуашшу, алеем, займаюцца саломапляценнем, выцінанкай. Пра дзейнасць класа народнай творчасці, якім кіруе М. Кулецкая, ведаюць многія. У 2008 г. майстар з вучнямі прадставілі свае творы ў выставачнай зале ў Брэсце, іх работы ўпрыгожвалі розныя мерапрыемствы. Летам 2009 г. разам са сваімі маленькімі сябрамі М. Кулецкая па запрашэнні культурнага цэнтра г. Белавежа (Польшча) наведала фэст "Легенды, традыцыі, абрады", дзе з іх дзейнасцю змог пазнаёміцца еўрапейскі глядач.

Пружанская мастачка актыўна ўдзельнічае ў грамадска-мастацкім жыцці Беларусі. Штогод яна прадстаўляе свае работы на вернісажах Беларускага саюза майстроў народнай творчасці "Вясновы букет" і "Калядныя ўзоры", Днях беларускага пісьменства і друку, святах працаўнікоў вёскі "Дажынкі". Запрашаюць мастачку і на міжнародныя фестывалі-кірмашы народных майстроў у Польшчу.

**Наталія ПРАКАПОВІЧ,**
**г. Пружаны**

## Афарызм

*Аптымізм беларускі ў тым, што калі мы, нягледзячы на ўвесь песімізм і безнадзейнасць мінулага, усё ж жывём, значыць, у нас ёсць падставы гаварыць аб лепшым будучым.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3015
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 02.06.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2588
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686